КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 27 (299) ◂ 6 ліпеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**СЯРГЕЙ АНТУСЕВІЧ**

Стар. 4

**ПАЎСЮЛЬ ПРАВАЛ, БО НЕ СУПРАЦЫЎЛЯЕМСЯ**

Беларуская Нацыянальная платформа Форуму грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» абрала кіраўніка і склад каардынацыйнага камітэта

Стар. 5

**НАСТАЛЬГУЮЧЫ ПА ГУЛЯШУ**

Пра месца Янаша Кадара ў венгерскай гісторыі і яго палітычную спадчыну журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з венгерскім палітолагам Мацiясам Бенікам

Стар. 11

**ЯНУШ РАДЗІВІЛ: ТРАГЕДЫЯ КАНСЕРВАТАРА**

Стар. 14

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**РАССТРЭЛ ПА РАЗНАРАДЦЫ**

Нарыс Ігара Кузняцова

▸ З НАГОДЫ

# ПАРАД ПРЭЗІДЭНТА

Вольга ХВОІН

**Народу патрэбна агульнанацыянальнае свята, якое яднае. Яно мусіць выклікаць гонар за краіну, паказваць веліч і моц нацыі. Сапраўды народнае — яно нязмушанае, без загаду і ад сэрца.**




Без перабольшвання, народным святам у Беларусі ёсць Новы год: тазік аліўе, шампанскае, загадванне жаданняў — традыцыйныя атрыбуты мілага дзейства, да якога загадаў ніхто не аддае.

А ёсць яшчэ Дзень перамогі 9 мая і Дзень незалежнасці 3 ліпеня. Але з гэтымі датамі не так роўненька. У мірнай Беларусі яны адзначаюцца як мілітарызаваныя святы — парад вайскоўцаў і тэхнікі, ляскатанне зброі і роў самалётаў, апеляцыя да Вялікай Айчыннай вайны, ваеннай моцы ўжо неіснуючай імперыі.

У Дзень незалежнасці вайсковы марш міксуецца з дэманстрацыяй дасягненняў спорту і народнай гаспадаркі — на густ рэжысёраў свята. Усё б нічога, толькі рэжысёры гэтага відовішча, пэўна, нагледзеліся фільмаў Лені Рыфеншталь ды на ўласны, не самы лепшы густ, разбаўляюць яго сучаснымі элементамі. Летась, напрыклад, такімі ноў-хаў былі вобразы «трактар-дзяўчынка» і «трактар-хлопчык». Сёння, відаць, на хвалі флёру ад візіту вышэйшай асобы ў Лацінскую Амерыку, на праспект разам са спартоўцамі выпусцілі дзяўчат у строях а-ля карнавал у Рыа-дэ-Жанейра. Каментатар патлумачыў гэтую разынку як «Паўднёваамерыканскія рытмы алімпійскага карнавалу».

І вось ідзе гэтае шэсце соцень удзельнікаў — спартоўцаў ці прадстаўнікоў працоўных калектываў, сінхронна выконваюцца пэўныя рухі, а абапал шырокага праспекту за ачапленнем стаяць людзі. І наўрад ці хто рынецца да спартоўцаў, каб выказаць, напрыклад, словы захаплення ці ўдзячнасці. А свята ж народнае, агульнадзяржаўнае, дык якія кардоны мусяць быць перад народам?

Увогуле, народныя святы ў Беларусі — мірнай, падкрэслім, краіне — ладзяцца з павышанымі мерамі бяспекі: кардоны, ачапленні, мноства міліцыянтаў, супрацоўнікаў у цывільным, амапаўцаў. Улады тлумачаць, што да такіх захадаў змусілі падзеі чатырохгадовай даўніны, калі ў ноч з 3 на 4 ліпеня 2008 года ў час канцэрта з нагоды Дня незалежнасці каля стэлы «Мінск — горад-герой» прагрымеў выбух самадзейнай прылады. Тады былі траўмаваныя больш за 50 чалавек. Таму гэтая пільнасць быццам бы выглядае правільнай. А з іншага боку, каб нешта святкаваць пад скрыжаванымі калючымі позіркамі супрацоўнікаў спецслужбаў, трэба мець той яшчэ ўзровень вытрымкі і спакою! Дзе там еўрапейцам з іх карнаваламі і актобэрфэстамі да беларускага парадку.

Дзяржаўны Дзень незалежнасці ёсць нагодай і магчымасцю выступіць палітычнаму лідару Беларусі з міні-пасланнем да народа. У гэтай прамовы ёсць ужо традыцыйныя тэзы: сяброўства з Расіяй; аранжавыя рэвалюцыі ў нас не пройдуць.

Сёлета Аляксандр Лукашэнка паспяшаўся абвергнуць уласную заяву, зробленую некалькі дзён таму падчас візіту ў Лацінскую Амерыку. Тады ён сказаў: «Тут знаходзіцца мой сын Мікалай, і гэта сведчыць пра тое, што ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20–25». А выступаючы на ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню незалежнасці, запэўніў: «Я ўсё больш са здзіўленнем чытаю і чую пра тое, што вось тут Лукашэнка — гэта назаўжды, гэта навечна. У які раз кажу, не апраўдваючыся перад вамі: мае дзеці прэзідэнцтва наеліся пры сваім бацьку. Ніякай перадачы па спадчыне ўлады быць не можа. Я чалавек быццам бы адносна сціплы, ніколі не кажу, што мне, дзякуючы вам, выпаў гонар быць у гэтай незалежнай дзяржаве першым прэзідэнтам, вашым прэзідэнтам. Я ўсё памятаю: колькі было бойкі, колькі было прагнозаў і колькі было магчымасцяў акунуць краіну ў хаос. Я тады сам сабе паабяцаў: я першы прэзідэнт, пасля мяне будуць іншыя, і я павінен зрабіць так, каб нікому не захацелася паступіць несумленна. І калі я буду сябе паводзіць несумленна, і калі я буду сябе паводзіць як многія іншыя алігархі вакол нашай краіны, у кожнага прэзідэнта пасля мяне будзе спакуса паўтарыць гэта. Я першы прэзідэнт, ваш прэзідэнт, і я проста не магу сабе гэтага дазволіць!» — супакойваў народ Аляксандр Лукашэнка. Наколькі можна верыць гэтым словам, і ці няма ў іх супярэчнасці — задачка для розуму кожнага грамадзяніна дзяржавы.

Яшчэ адна гарачая тэма знешнепалітычных падзей Беларусі — рызыка страты суверэннасці. Пра тое, што шанцы ёсць, і не малыя, гавораць не першы дзень. У Расіі, да прыкладу, людзі ў глыбінцы, дзякуючы мясцовай прапагандзе, перакананыя, што пытанне ўвядзення ў Беларусі расійскага рубля ўжо вырашанае.

Калі хто думае, што ўвядзенне расійскага рубля ў нашай краіне — гэта ўсяго толькі чарговы метад прыссацца да халявы, то мусім расчараваць: усё не так проста і аптымістычна. Карыстаючыся нагодаю, Аляксандр Лукашэнка паспеў запэўніць свой электарат, што гэтыя плёткі і прагнозы — усяго толькі фантазія. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што незалежнасць дзяржавы ніколі не бывае абсалютнай. Тым больш гэта немагчыма сёння, калі залежнасць паміж краінамі ўзрасла на парадак.

«Нават суперніцтва паміж дзяржавамі перажывае каласальныя змены — гэта ўжо не вайна на знішчэнне, а асцярожная канкурэнцыя, заснаваная на дзясятках і сотнях кампрамісаў, — сказаў беларускі кіраўнік. — Гэтыя кампрамісы існавалі заўсёды на працягу ўсёй чалавечай гісторыі. Але сёння яны працялі сабой літаральна ўсё — ад пагадненняў у рамках Сусветнай гандлёвай арганізацыі (дзе нават найбуйнейшыя дзяржавы свету падпарадкоўваюць сябе агульным правілам) да Еўрасаюза, у рамках якога краіны проста ахвяруюць вельмі значнай часткай свайго як эканамічнага, так і палітычнага суверэнітэту», — прыводзіў прыклады Лукашэнка. Разам з тым, нагадаем, калі ўладар «чырвонага дому» на Маркса мае намер «ніколі не аддаць сваю дзяржаўнасць», то ўладар Крамля мае канкрэтны план на бліжэйшыя гады — сваю дзяржаву пашырыць.

Варта дадаць, што першая асоба прымала вайсковы парад і «алімпійскі карнавал» у кампаніі свайго малодшага сына. Гэтымі днямі Мікалай Лукашэнка выйшаў ці не ў топавыя персоны беларускіх медыя па колькасці згадак. Так і хочацца прыгадаць традыцыі выхавання манархаў.

Але выходныя скончыліся, чаркі выпітыя, шкваркі з'едзеныя. Чакаем Дажынак.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СЛОНІМ. АКТЫВІСТКУ БХД ЗНОЎ АРЫШТАВАЛІ

У Слоніме позна ўвечары 3 ліпеня каля мясцовага райвыканкаму была ў чарговы раз затрымана сябра Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Вольга Пансевіч.

Дзяўчыну абвінавацілі ў непадпарадкаванні патрабаванням міліцыянтаў. А раніцай 4 ліпеня над ёй адбыўся суд, дзе яе аштрафавалі на 2,4 мільёна рублёў.

Нагадаем, што 21 красавіка Вольгу Пансевіч затрымалі і збілі міліцыянты. А 12 чэрвеня яе ў дадатак яшчэ аштрафавалі на 2,5 мільёны рублёў. Пасля суда Вольга Пансевіч падала апеляцыйную скаргу ў Гродзенскі абласны суд, які павінен адбыцца 19 ліпеня. І вось новае затрыманне і вялікі штраф.

**spring96.org**

### КРУГЛАЕ. СУПРАЦЬ ПРЫМУСОВАЙ ПРАЦЫ

Грамадская актывістка з Круглянскага раёна Зінаіда Мілешчанка на мінулым тыдні напісала скаргу ў Кнігу скаргаў і прапаноў мясцовага райвыканкама і папрасіла патлумачыць, чаму ў Круглянскім раёне на пастаяннай аснове парушаецца працоўнае заканадаўства і супрацоўнікі бюджэтных устаноў без усялякай аплаты прыцягваюцца на разнастайныя брудныя працы.

Ужо праз тры дні яна атрымала адказ з Круглянскага райвыканкама, у якім гаворыцца аб тым, што ніякіх скаргаў з боку працаўнікоў не паступала і што ўпаўнаважанымі органамі ажыццяўляліся праверкі выканання працоўнага заканадаўства, і парушэнняў яны не знайшлі.

«Да мяне звярнуліся па дапамогу многія супрацоўнікі бюджэтнай сферы, якія скардзіліся на тое, што іх пастаянна адпраўляюць на разнастайныя брудныя работы, пры гэтым ніякай згоды ніхто ў іх не пытаецца, — распавядае Зінаіда Мілешчанка. — У арганізацыях нават створаны адмысловыя графікі выдзялення людзей на гэтыя прымусовыя работы, яны ў мяне ёсць. Кваліфікаваныя спецыялісты прыбіраюць сметнікі ў маланаселеных вёсках і ачышчаюць тэрыторыю жывёлагадоўчых ферм. Да таго ж у раёне, па рашэнню райвыканкама, праведзена ўжо некалькі «дзён бязвыплатнай працы», калі людзі працуюць на сваіх працоўных месцах, а заробленыя імі сродкі пералічваюцца на адмысловы рахунак. А яшчэ ж людзей задзейнічаюць і на разнастайных суботніках, пры гэтым яшчэ вылічваючы грошы з заробкаў»…

«У адказе проста распавядаецца пра тое, што людзі раней не скардзіліся. Пішуць таксама, што «ўпаўнаважанымі органамі ажыццяўляліся праверкі выканання працоўнага заканадаўства, і парушэнняў яны не знайшлі». Пры гэтым нават не згадваецца, хто і калі ажыццяўляў гэтыя праверкі. Я раней ужо звярталася ў пракуратуру раёна з адпаведным зваротам, і супрацоўнікі пракуратуры пагадзіліся са мной, што парушэнні працоўнага заканадаўства сапраўды маюць месца, аднак таксама спасылаліся на тое, што людзі не скардзяцца. Людзі ж паміж сабой выказваюць скаргі, але адмаўляцца ад такой незаконнай працы не адважваюцца, баяцца згубіць працу. Знайсці ж якую-небудзь іншую працу ў Круглянскім раёне, калі ты быў звольнены пасля канфлікту з кіраўніцтвам, практычна немагчыма», — кажа Зінаіда Мілешчанка.

Зараз грамадская актывістка рыхтуе зварот у Магілёўскі аблвыканкам з просьбай патлумачыць, згодна з якімі беларускімі законамі ў Круглянскім раёне на пастаяннай аснове выкарыстоўваецца прымусовая праца.

**spring96.org**

### БЯРОЗА. ЛЮДЗІ НЕ ЗБІРАЮЦЦА НА ВЫБАРЫ

**Дзеянні мясцовых уладаў у Бярозаўскім раёне не спрыяюць жаданню жыхароў ісці на выбары.**

Так, жыхары горада Белаазёрска выказваюць незадавальненне будаўніцтвам завода свінцовых сплаваў побач з горадам: не параіўшыся з народам, улады далі згоду на яшчэ адну шкодную вытворчасць. Бярозаўскі раён і без таго лічыцца раёнам экалагічнага бедства. У 2006 годзе практычна ў межах горада было адкрыта прадпрыемства па вырабу пестыцыдаў «Франдэса». На той час ні мясцовая ўлада, ні прэзідэнт таксама не прыслухаліся да пратэстаў насельніцтва — а было сабрана 9 тысяч подпісаў супраць гэтага прадпрыемства. На сёння, паводле афіцыйнай статыстыкі, толькі 17% працаздольнага насельніцтва Бярозаўскага раёна лічыцца здаровым.

Шмат хто з выбаршчыкаў кажа, што на выбары не пойдзе — маўляў, такія дэпутаты, як цяпер, ім не патрэбныя. Людзі ўпэўненыя, што ўлада зробіць, як ёй трэба, і без іх. Прызначалі б адразу, кажуць, каб не марнаваць грошы, якіх і так не хапае.

Многія жыхары мястэчка Малеч не задаволеныя тым, што Бярозаўскі раён падчас парламенцкай кампаніі падзелены на часткі: адна з іх увайшла ў Пружанскую выбарчую акругу №9, а другая, у тым ліку і Малеч, які значна бліжэй да Пружан, — у Івацэвіцкую акругу №11. Па словах мясцовага праваабаронцы Анатоля Сахарушы, незадаволены абвясцілі, што на выбары не пойдуць. І нават на ягоную заўвагу — што праз тры месяцы вас так апрацуюць, нагадаюць пра працоўныя кантракты і г.д., што вы яшчэ ўсе датэрмінова прагаласуеце, — абыцалі не адрачыся ад цяперашняга абурэння.

Па прызнаннях насельніцтва раёна, ім не дадае жадання галасаваць і падвышэнне коштаў на тавары і паслугі.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

---

СУД

# МОЛЧАНУ ПРЫСУДЗІЛІ ШТРАФ

**У судзе Першамайскага раёна адбылося слуханне па справе актывіста «Еўрапейскай Беларусі».**

19 мая ў знак салідарнасці са зняволеным віцебскім апазіцыянерам Сяргеем Каваленкам ён разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг у Мінску, за што быў жорстка збіты міліцыянтамі. Яму было вынесена абвінавачанне па артыкуле 23.34 КаАП — несанкцыянаванае пікетаванне. Суддзя — Сяргей Анатольевіч Люштык.

У пачатку працэсу суддзя адхіліў хадайніцтва аб разглядзе відэаматэрыялаў, знятых каля будынку Першамайскага РАУС.

У сваіх паказаннях у судзе Андрэй распавёў, што 19 мая ён разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг у падтрымку палітвязня Сяргея Каваленкі. Калі гэта ўбачылі міліцыянты, яны пачалі вырываць у яго сцяг. Потым апранулі кайданкі і пачалі яго збіваць. Падчас збіцця Андрэй Молчан некалькі разоў губляў прытомнасць.

У якасці сведкаў абвінавачання выступілі міліцыянты, салдаты тэрміновай службы Аляксандр Куцко і Аляксандр Ігнатовіч. Яны паведамілі, што культура прасілі прыбраць Молчана сцяг, аднак ён пачаў агрэсіўна рэагаваць на гэта, біў нагамі па службовым аўтамабілі і патрапіў нагой у твар аднаму з міліцыянтаў. Менавіта з-за гэтага яны вымушаныя былі надзець яму кайданкі.

Зразумела, суддзя паверыў міліцыянтам. Андрэй Молчан прызнаны вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП. Суд прызначыў пакаранне — штраф 8 базавых велічыняў (800 тысяч рублёў). Суддзя Люштык падчас працэсу не прыняў да ўвагі збіццё Молчана, пацверджанае медыцынскай экспертызай. І наогул праігнараваў гэты факт.

**Паводле spring96.org**

---

СВЯТА

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЗША

**4 ліпеня Злучаныя Штаты Амерыкі ў 236-ы раз адсвяткавалі Дзень незалежнасці сваёй краіны.**

Менавіта ў гэты ліпеньскі дзень 1776 года Другі Кантынентальны кангрэс у Філадэльфіі, на які сабраліся паўнамоцныя прадстаўнікі ад 13 брытанскіх калоній на ўсходнім узбярэжжы Паўночнай Амерыкі, ухваліў Дэкларацыю аб незалежнасці ад брытанскай кароны.

Менавіта на гэтым падмурку — незалежнасці, свабоды і дэмакратыі — паўстала, існуе і развіваецца сучасная дзяржава ЗША. Паўстала, абапіраючыся на перадавыя ідэі і сусветны гістарычны досвед.

Гэту сувязь часоў, падзей і асоб адзначыў у сваёй прамове кіраўнік дыпламатычнай місіі ЗША ў Беларусі Майкл Скэнлан на ўрачыстым прыёме, зладжаным у гонар нацыянальнага свята сваёй краіны.

«Гісторыя Амерыкі — сказаў ён, — гэта ў пэўнай ступені гісторыя эмігрантаў у пошуках лепшай будучыні. Такія беларусы, як Тадэвуш Касцюшка, Дэвід Сарноф, Барыс Кіт, з іх прагай пераменаў, дапамагалі будаваць маю краіну. Беларускую і амерыканскую гісторыю таксама аб'ядноўваюць агульныя каштоўнасці. Напрыклад, Беларусь была сярод першых у спрыянні рэлігійнай свабодзе, што было выключнай справай для Еўропы XVI стагоддзя. Статут Вялікага Княства Літоўскага быў істотна важным для вяршэнства права, а Магдэбургскае права давала грамадзянам магчымасць самастойна кіраваць сваімі гарадамі».

Спадар амбасадар Скэнлан згадаў, што нядаўна споўнілася 20-я гадавіна заснавання амерыканскай амбасады ў Беларусі. «У нашых двухбаковых стасунках, — адзначыў ён, — былі і пад'ёмы, і спады. Але Злучаныя Штаты заўсёды імкнуліся будаваць адносіны, грунтуючыся на агульных каштоўнасцях, якія ў сваім, без сумневу, еўрапейскім мінулым падзяляла Беларусь. У 2010 годзе мы спадзяваліся, што Беларусь паступова вяртаецца да гэтых каштоўнасцяў. Напрыклад, у снежні беларускі ўрад прызнаў у сумеснай заяве са Злучанымі Штатамі, што «большая павага дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі… жыццёва важная для развіцця краіны і яе грамадзян». У 2010 годзе мы таксама бачылі прыкметы лібералізацыі, уключна з больш адкрытай, па меншай меры напачатку, прэзідэнцкай кампаніяй. Аднак рэпрэсіі пасля выбараў, якія дагэтуль не спыніліся, разбілі гэтыя надзеі. На жаль, некаторыя нашы госці не змаглі да нас далучыцца, таму што несправядліва зняволеныя.

Спадзяюся, што Беларусь вернецца да агульных каштоўнасцяў, якія падзяляла ў сваім годным мінулым. Сёння гэтыя прынцыпы ўвасобленыя ў дэмакратыі, свабодным рынку, актыўнай грамадзянскай супольнасці і такіх асноўных правах, як свабода сходаў і прэсы».

---

ПАМЯЦІ КАЛЕГІ

# РАЗВІТАЛІСЯ З СЯРГЕЕМ ВІТУШКАМ

Генадзь КЕСНЕР

**У сераду, 4 ліпеня, у Мінску адбылося развітанне з кіраўніком слыннай «Талакі», паэтам і грамадскім дзеячам Сяргеем Вітушкам. Адпяванне і грамадзянская паніхіда па памерлым адбылася ў Грэка-каталіцкім цэнтры Святога Язэпа ў Мінску. Слынны беларус пайшоў з жыцця 2 ліпеня ў веку 47 гадоў у Вільні, дзе ён жыў.**



Сяргей Вітушка доўга хварэў на дыябет. Гэтая бязлітасная хвароба спачатку пазбавіла нашага выбітнага суайчынніка зроку, потым яму ампутавалі нагу. Тым не менш, Сяргей ніколі не падаў духам. Ужо будучы невідушчым, Вітушка аваладаў друкаванаем «усляпую» і працягваў пісаць, у тым ліку і вершы. Невідушчы Сяргей праводзіў для беларусаў экскурсіі па Вільні — па месцах, якія былі і ёсць важнымі для нашых суайчыннікаў. І не толькі. Вітушка пісаў вершы, публіцыстычныя матэрыялы і казкі. У лютым бягучага года ў тым жа Грэка-каталіцкім цэнтры з удзелам аўтара адбылася прэзентацыя кнігі «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі».

Развітацца з нябожчыкам, які скончыў жыццё ў выніку інфаркту — наступства таго ж дыябету (цукроўкі), прыйшло шмат людзей. Царква, дзе ішло жалобнае набажэнства, не змагла ўмясціць усіх жадаючых аддаць апошнюю даніну павагі гэтаму мужнаму і таленавітаму чалавеку. Тут былі і паплечнікі Вітушкі па «Талацэ», вядомыя грамадскія дзеячы і дзеячы культуры. У многіх на вачах — слёзы. Тыя, хто браў слова пры развітанні, адзначалі неверагодную чалавечнасць Сяргея, які, па словах паплечніка Вітушкі Віктара Івашкевіча, быў неверагодна добрым чалавекам, што імкнуўся ва ўсіх людзях знайсці, убачыць толькі добрае, а не адмоўнае.

Труну з целам Сяргея Вітушкі выносілі з царквы пад жалобныя гукі дуды. Працяг развітання адбыўся ўжо ў рытуальнай зале крэматорыя на Паўночных могілках. Дарэчы, труну накрылі тым самым бел-чырвона-белым сцягам, якім было накрыта падчас цырымоніі развітання цела Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

Попел Сяргея Вітушкі будзе пахаваны на радавых могілках у вёсцы Рагава. Светлая памяць аднаму з самых светлых беларусаў сучаснасці. І Валадарства Нябеснае.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КОСМАС — НАШ!

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Першая «БелКА» нікуды не паляцела. Але ж Беларусь імкнецца стаць касмічнай дзяржавай. Раней паведамлялася, што Федэральнае касмічнае агенцтва Расіі (Раскосмас) прызначыла на 22 ліпеня раней адкладзены з-за рознагалоссяў з Казахстанам запуск ракеты «Саюз» з беларускім спадарожнікам на борце. Аднак амбіцыі па заваяванні касмічнай прасторы на гэтым не скончыліся.**

Урад РФ ухваліў канцэпцыю праграмы Саюзнай дзяржавы «Распрацоўка касмічных і наземных сродкаў забеспячэння спажыўцоў Расіі і Беларусі інфармацыяй дыстанцыйнага зандавання Зямлі» (праграма «Маніторынг-СД»). Праграма была распрацавана Федэральным касмічным агенцтвам і пададзена ўраду пасля папярэдняга ўзгаднення з зацікаўленымі органамі ўлады Расіі і Беларусі.

Праграма «Маніторынг-СД», разлічаная на 2012–2016 гады, з'яўляецца «чарговым крокам у рэалізацыі доўгатэрміновага супрацоўніцтва Беларусі і Расіі па інтэграцыі іх наземных і арбітальных касмічных сродкаў, а таксама інтэлектуальных і вытворчых рэсурсаў у правядзенні даследавання і выкарыстання касмічнай прасторы ў мірных мэтах». Прычым праграма прадугледжвае распрацоўку новых тэхнічных і апаратна-праграмных сродкаў наземнага комплексу кіравання, прыёму, апрацоўкі і распаўсюджвання касмічнай інфармацыі, а таксама выкарыстання магчымасцяў арбітальнай групоўкі расійскіх і беларускіх касмічных апаратаў.

Вось і дзіўная «інтэграцыя ў космасе». Беларусь свой спадарожнік яшчэ нават не запусціла, а ўжо патрабуецца «доўгатэрміновае супрацоўніцтва па інтэграцыі арбітальных касмічных сродкаў».

Заўважце, 2012 год — пачатак праграмы — гэта зараз. Ніводнага беларускага спадарожніка ў космасе няма. А праграма ўжо заяўляе пра выкарыстанне цэлай арбітальнай групоўкі беларускіх касмічных апаратаў!

Хацеў бы я паўдзельнічаць у гэтай фантастычнай праграме — калі нічога няма, а фінансаванне ўжо ёсць. Здаецца, адзінае касмічнае ў такіх варунках, што можа быць, — «распіл бабла» ў касмічных маштабах з касмічнай хуткасцю.

Але ў перспектыве ў Беларусі будзе свой касмадром. А калі не свой, дык хоць ягоная частка. Шкада, праўда, што месціцца ён будзе не ў Беларусі, і яркага старту касмічнай ракеты мы жыўцом не пабачым. Але ўсё ж Беларусь будзе ўдзельнічаць у будаўніцтве касмадрома. У Венесуэле.

Пра гэта паведаміў венесуэльскі пасол Амерыка Дыяс Нуньес 4 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску. «Беларусь будзе ўдзельнічаць у будаўніцтве касмічнай базы ў штаце Арагуа, — сказаў дыпламат. — Будаўніцтва гэтай базы запланавана не для запуску ядзерных ракет, а для запуску спадарожнікаў у навуковых і даследчых мэтах. Цяпер спадарожнікі для Венесуэлы вырабляюцца ў Кітаі, але было дасягнута пагадненне, што яны будуць збірацца ў Венесуэле».

Так што не вельмі хутка, але ад Байканура мы адмовімся. Дарэчы, калі Венесуэла будзе збіраць свае спадарожнікі, чаму б не прапанаваць ім нашу тэхналогію замест кітайскай? А ў хуткім часе збіраць і сапраўдныя касмічныя арбітальныя станцыі…

Акрамя касмадрому, Беларусь, Венесуэла і Кітай рэалізуюць праект па будаўніцтве ЦЭЦ у штаце Барынас. Кошт праекта складае 900 мільёнаў долараў. «Кітай інвестуе капітал, а Беларусь перадасць сваю тэхналогію, — сказаў Дыяс Нуньес. — ЦЭЦ будзе пабудавана за тры гады, з 2012 па 2015 гады, у прамысловай зоне Санта-Інэс у Барынасе».

І больш за тое. Венесуэла гатова пастаўляць нафту ў тых аб'ёмах і на тых умовах, якія неабходны Беларусі. «Гаворка не ідзе аб тым, што гэты праект праваліўся. У Беларусі была надзвычайная сітуацыя, была неабходнасць імпартаваць нафту ў пэўнай колькасці. Венесуэла выказала гатоўнасць дапамагчы і ажыццявіла пастаўкі», — сказаў Нуньес.

Космас, нафта, ЦЭЦ, праекты… Амбіцыі і мары могуць быць якія заўгодна. Але калі паглядзець на двухбаковыя адносіны непрадузята, то можна прыйсці да высновы, што ў апошні час эканамічнае супрацоўніцтва стала згасаць. Шырока разрэкламаваны праект пастаўкі венесуэльскай нафты ў Беларусь здзьмуўся. Паступова скарачаецца і тавараабарот. У 2010 годзе ён складаў 1,5 мільярда долараў, у 2011 годзе — 1,3 мільярда, у гэтым годзе, мяркуючы па тэндэнцыях першых месяцаў, будзе яшчэ меншым.

Наогул, у аналітыкаў ствараецца ўражанне, што спачатку беларуская кіруючая наменклатура ўбачыла ў Венесуэле залатую жылу. Але пазней энтузіязм суцішыўся: будаўнічыя аб'екты здаюцца са спазненнем, а засваенне нафтавых радовішчаў, якія прапанавалі венесуэльскія браты, абыдзецца дорага. Там патрэбныя вялікія інвестыцыі, і нават з сённяшнім коштам на нафту гэтыя праекты не акупляюцца.

А грошай дастаць няма адкуль. Трэба разлічвацца па папярэдніх крэдытах, ды братэрская Расія таксама патрабуе сваю частку. Прычым, сапраўды сваю. Федэральны арбітражны суд Маскоўскай акругі пацвердзіў рашэнне арбітражнага суда Масквы аб спагнанні па іску «Альфа-банка» з беларускага прадпрыемства «Брэстэнерга» запазычанасці па крэдытным дагаворы ў памеры прыблізна 18 мільёнаў долараў.

Крэдыт «Брэстэнерга» быў выдадзены ў маі 2010 года на 20 мільёнаў долараў. Тэрмін вяртання павінен быў наступіць у снежні 2013 года. Аднак «Альфа-банк» датэрмінова запатрабаваў крэдыт, бо адказчык несвоечасова аплачваў працэнты па крэдыце і не выконваў графік пагашэння асноўнага доўгу. «Брэстэнерга» пратэрмінаваў пагашэнне грашовых сродкаў у сувязі з сітуацыяй на валютным рынку ў Беларусі. Памятаеце «доларавы дэфіцыт»?

Ну, нічога, выйсце можа знайсціся. Прыкладам, расійская газета «Коммерсантъ» лічыць, што Беларусь можа прытуліць прэзідэнта Сірыі Башара Асада. У апублікаваным 3 ліпеня інтэрв'ю турэцкай газеце «Cumhuriyet» Асад упершыню выразна заявіў, што гатовы пайсці з прэзідэнтаў, калі пераканаецца, што гэты крок прывядзе да ўрэгулявання ўзброенага канфлікту з апазіцыяй.

«Інфармаваная крыніца» ў расійскіх дыпламатычных колах паведаміла «Коммерсанту», што заходнія краіны, і найперш ЗША, робяць актыўныя спробы пераканаць Маскву забраць да сябе сірыйскага лідара і даць яму палітычны прытулак. Эксперт выдання, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра міжнароднай бяспекі Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносінаў РАН Уладзімір Сотнікаў заявіў, што Масква «правядзе перамовы з Беларуссю і, каб лішні раз не раздражняць грамадскую думку на Захадзе, угаворыць Мінск прытуліць Асада — Лукашэнка да гэтага гатовы».

А чаму не? У красавіку 2010 года прытулак у Беларусі паводле прапановы Лукашэнкі атрымаў звергнуты прэзідэнт Кыргызстана Курманбек Бакіеў. У жніўні — верасні 2011 года распаўсюджвалася інфармацыя, што Беларусь у якасці прыстанку абраў лівійскі лідар Муамар Кадафі, але не паспеў прыехаць — быў забіты ў сябе на радзіме. Зараз Асад. Можа, у яго грошыкі і на нашы амбітныя праекты знойдуцца?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ




### «ЮНАЦТВА»

Мінскі хакейны клуб «Юнацтва» прынялі ў Вышэйшую хакейную лігу. Беларускі клуб пацвердзіў гарантыі свайго ўдзелу чэмпіянаце, што адбудзецца ў бліжэйшы час. У сярэдзіне чэрвеня Мінск наведала камісія ВХЛ, якая пазнаёмілася з інфраструктурай патэнцыйнага сябра. На пачатку чэмпіянату «Юнацтва» будзе прымаць супернікаў у аднайменным палацы спорту, які можа змясціць 2 тысячы гледачоў. Пасля здачы ў эксплуатацыю «Чыжоўка-Арэны», будаўніцтва якой падыходзіць да завяршальнай стадыі, палац з трыбунамі на 8 тысяч гледачоў стане домам першага беларускага клуба ВХЛ.

Напрыканцы мая на Агульным сходзе ВХЛ у Сочы ў лігу былі прынятыя краснадарская «Кубань», «Сарыарка» з Караганды, варонежскі «Буран» і ТХК з Цверы.

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Вікторыя Азаранка выйшла ў чвэрцьфінал адкрытага чэмпіянату Англіі па тэнісе. 2 ліпеня ў чацвёртым крузе другая ракетка свету за 62 хвіліны з лікам 6:1, 6:0 выйграла ў сербкі Ганны Іванавіч.

Наступнай саперніцай беларускай спартсменкі, як і ў чвэрцьфінале леташняга Уімблдона, будзе Таміра Пашэк з Аўстрыі. Тады Азаранка, якая займала пятае месца ў рэйтынгу, была мацнейшая за на той момант 80-ю ракетку свету — 6:3, 6:1. У двух вочных паядынках (першы адбыўся ў 2008 годзе) беларуска атрымала перамогі.

«Матч з Пашэк будзе складаным. Яна паказвае выдатныя вынікі на траве, выйграе матчы з матч-пойнтаў. Гэта паказвае, што ў яе вельмі моцны характар. Мы гулялі тут у мінулым годзе. Упэўненая, што ў гэты раз усё будзе інакш, але я гатовая да цяжкасцяў. Калі ты знаходзішся на вяршыні, усе хочуць цябе абыграць. Але дзеля гэтага мы і працуем — каб патрапіць у такое становішча. У гэтым няма нічога дрэннага ці добрага, проста трэба навучыцца спраўляцца з гэтай сітуацыяй», — прыводзіць словы тэнісісткі афіцыйны сайт «Уімблдона».

У мінулым сезоне Азаранка дайшла да паўфіналу адкрытага чэмпіянату Англіі, дзе саступіла чэшцы Петры Квітавай. Суперніцы сустрэнуцца зноў на гэтай жа стадыі, калі Азаранка выйграе ў Пашэк, а Квітава — у амерыканкі Серэны Уільямс.

Цяпер Вікторыя Азаранка займае другі радок у WTA. Яе бліжэйшыя суперніцы — расійская тэнісістка Марыя Шарапава (пакуль яшчэ першае месца рэйтынгу) і польская спартсменка Агнешка Радваньска, якая займае трэцюю пазіцыю ў спісе WTA.

### АНДРЭЙ АЖАРОЎСКІ



Расія дае Беларусі на АЭС гарантыю тэрмінам менш, чым у бытавой тэхнікі. Пра гэта заявіў у блогу на сайце радыё «Эхо Москвы» актывіст антыядзернага руху, фізікядзершчык Андрэй Ажароўскі.

Андрэй Ажароўскі адзначае, што пытанне аб адказнасці Расіі за беларускую АЭС вырашана ў Пагадненні «Аб супрацоўніцтве ў будаўніцтве на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь атамнай электрастанцыі», якое падпісалі ў Мінску 15 сакавіка 2011 года генеральны дырэктар Дзяржаўнай карпарацыі па атамнай энергіі «Расатам» Кірыенка і міністр энергетыкі Рэспублікі Беларусь Азярэц.

Артыкул 3 названага Пагаднення ўстанаўлівае перыяд гарантыйнага тэрміну эксплуатацыі АЭС — «на працягу двух гадоў з даты падпісання заказчыкам і генеральным падрадчыкам акта аб перадачы блока заказчыку ў гарантыйную эксплуатацыю».

«Атрымалася, што пасля двух гадоў Расія ніякай адказнасці не будзе несці, хіба што маральную. З маральнай адказнасцю ў дзяржкарпарацыі «Расатам» усё ў парадку, — піша Ажароўскі. — Сёння для многіх мадэляў бытавой тэхнікі гарантыйны перыяд можа складаць больш за два гады, а тут два гады для АЭС коштам 10 мільярдаў долараў... Няўжо Азярэц не праінфармаваў пра гэта Лукашэнку?»

ТРЭЦІ СЕКТАР

# СЯРГЕЙ АНТУСЕВІЧ

Аляксандр ТАМКОВІЧ



Сяргей Антусевіч

**Калі — ужо вельмі даўно — я першы раз размаўляў з Сяргеем Антусевічам, быў уражаны тым фактам, што менавіта ў яго з’явіўся адзін з першых у Беларусі навігатараў GPS. Калі ж пазнаёміўся з ім лепш, зразумеў, што ўсё тут абсалютна лагічна, бо з самага дзяцінства ён, як кажуць, сябруе з тэхнікай, а па жыцці яго вядзе другі навігатар — Свабода.**

## Першыя арыенціры

Яны абазначыліся разам з нараджэннем Сяргея на свет — 16 жніўня 1973 года ў Брэсце. Успамінаючы той дзень, маці Сяргея, Галіна Якаўлеўна, заўсёды прыгадвае неверагодную гарачыню і прэм’еру папулярнага савецкага кінасерыяла «Сямнаццаць імгненняў вясны». Знакамітыя кабзонаўскія песні даносіліся з усіх вокнаў.

Бацька Сяргея, Яўген Сяргеевіч, працаваў на брэсцкім электрамеханічным заводзе. Потым яго прызвалі на тэрміновую вайсковую службу, якую праходзіў у Латвіі, у войсках сувязі, дзе застаўся на «звышурочную». Неўзабаве перавялі ў Гродна, а потым у якасці саветніка накіравалі ў Афганістан. Саветнікам дазвалялася браць з сабой сем’і. Моцная ахова плюс адносна спакойная для «шураві» атмасфера першых гадоў «выканання інтэрнацыянальнага абавязку» гарантавалі бяспеку. Так і атрымалася, што ў Гродне Сяргей скончыў шэсць класаў, а ў 1987 годзе ўжо вучыўся ў Кабуле. Дарэчы, у суседнім з імі доме жыў Наджыб, які пазней стаў прэзідэнтам Наджыбулой.

Але запомніўся Сяргею афганскі перыяд зусім не гэтым, а кнігамі. Хто памятае, пацвердзіць, што ў савецкія часы кнігі былі адным з дэфіцытаў. Каб іх набыць, простым людзям трэба было здаць пэўную колькасць макулатуры і атрымаць адпаведны талончык. У Кабуле кнігі прадаваліся свабодна. Савецкія выдаўцы вельмі эфектыўна працавалі на аўдыторыю «абмежаванага кантынгенту савецкіх войскаў». Больш за палову багажу сям’і Антусевічаў заўсёды складалі менавіта кнігі.

## Арыенцір — тэхніка

Пасля вяртання сям’і з Афганістана, Сяргей Антусевіч працягнуў вучобу ў роднай пятай гродзенскай школе. Пасля яе заканчэння паспрабаваў паступіць у Брэсцкі тэхнічны ўніверсітэт (назва сучасная — А. Т.), аднак беспаспяхова.

Як звычайна, прыярытэты ў нас змяняюцца з цягам сталення. Спачатку Сяргей Антусевіч хацеў звязаць сваё жыццё з біялогіяй і сельскай гаспадаркай, пазней захапіла гісторыя, а яшчэ пазней — тое, што звычайна называюць новымі тэхналогіямі.

Гродзенскі «Азот» быў шэфам іх школы. Калі Сяргей Антусевіч вучыўся ў дзявятым класе, школе падарылі персанальны кампутар вытворчасці нямецкай фірмы «Шнайдар». З гэтага моманту цікавасць да тэхнікі ў прыярытэтах перамагла ўсё іншае, і свой лёс Сяргей вырашыў звязаць менавіта з ёй.

Пасля няўдалай спробы паступлення вярнуўся ў родную школу, дзе яго з задавальненнем узялі працаваць лабарантам кабінета фізікі. Дарэчы, пазней разам з дырэктарам сваёй школы ён будзе «дэпутатстваваць».

За год работы Сяргей Антусевіч падрыхтаваўся так добра, што наступным летам паступіў адразу ў дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы: завочна — на матэматычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта, на дзённае аддзяленне — у Беларускі тэхналагічны інстытут (зараз таксама ўніверсітэт) на інжынера-механіка машын і апаратаў хімічных вытворчасцяў.

## Арыенцір — палітыка

1991 год. Пачатак незалежнасці. Хвалі мітынгаў. Бел-чырвона-белы сцяг, герб краіны «Пагоня». Усё гэта не магло не паўплываць на светапогляд будучага прафсаюзнага дзеяча. Да таго ж, яшчэ ў школе бацька аднаго з яго аднакласнікаў быў сябрам БНФ, так што глеба для іншадумства была ўжо падрыхтаванай.

Таму няма нічога дзіўнага, што, калі ў 1996 годзе яго размеркавалі на «Азот», сваё вяртанне ў Гродна Сяргей Антусевіч адзначыў падачай заявы аб прыёме ў БНФ. Дакладней, у яго маладзевую суполку, якую сам жа і стварыў. Стаў там намеснікам старшыні. Менавіта ў гродзенскай суполцы «Маладога фронту» ён пазнаёміўся з будучай жонкай Жаннай. Распісаліся яны ў лістападзе 1998-га.

Дарэчы, Сяргей Антусевіч шмат гадоў з’яўляўся сябрам Сойму БНФ і менавіта пад гэтым «брэндам» удзельнічаў ва ўсіх выбарчых кампаніях. Я да таго, што прыналежнасць да так званых «адмарозкаў» не перашкаджае перамагаць. Няважна, пад якімі сцягамі змагаецца чалавек, галоўнае тут іншае — падтрымка людзей.

І яшчэ. Шчыра кажучы, мяне (як і многіх іншых) сур’ёзна стамілі «пачкаванні» ў беларускай апазіцыі. Такое ўражанне, што яны больш змагаюцца паміж сабой, чым з «апошнім дыктатарам Еўропы». Ці не ў гэтым адна з прычын зніжэння іх аўтарытэта ў беларускім грамадстве?

## Арыенцір — незалежны прафсаюз

У 1990-я гады незалежныя прафсаюзы было зарэгістраваць значна лягчэй, чым сёння. На «Азоце» афіцыйны статус новы прафсаюз набыў у 1992 годзе, а Сяргей Антусевіч прыйшоў туды ў 1999-м.

Першы год па вяртанні на «Азот» ён працаваў слесарам, бо вольных месцаў на прадпрыемстве для інжынераў на той час не было. Гэтай акалічнасці Сяргей удзячны па сённяшні дзень. Ён атрымаў магчымасць сваімі вачамі ўбачыць, як што працуе, і зразумець логіку людзей, якія зарабляюць на хлеб асабістай працай. Ва ўніверсітэтах гэтаму не вучаць. Пагадзіцеся, досвед вельмі каштоўны.

Амаль адразу пасля напісання заявы аб сяброўстве ў незалежным прафсаюзе, Сяргею Антусевічу прапанавалі займацца адукацыйнымі праграмамі. Накірунак важны перш за ўсё таму, што ў галіне працоўнага заканадаўства пастаянна нешта змяняецца. А праз паўгады яму прапанавалі ўзначаліць арганізацыю.

Акрамя гэтага ў 2007 годзе на сёмым з’ездзе Беларускага незалежнага прафсаюза яго абралі сакратаром-скарбнікам. Звярнем увагу, што гэта структура з’яўляецца толькі адным (але найбольш буйным) са складнікаў Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, які на сённяшні дзень узначальвае Аляксандр Ярашук.

У красавіку мінулага года на чарговым, восьмым, з’ездзе БКДП Сяргея абралі намеснікам старшыні Беларускага незалежнага прафсаюза, а ўжо ў студзені 2012 года, на першым жа пасяджэнні пасля з’езда, Сяргей Антусевіч стаў першым намеснікам.

Не раз даводзілася чуць пра неверагодны ціск на сяброў незалежных прафсаюзаў. «Азот» — не выключэнне. Кожны год яго працаўнікі падпісваюць кантракты, праходзяць пераатэстацыю і г.д. Адміністрацыя выкарыстоўвае такія магчымасці адпаведным чынам.

Калі Сяргей Антусевіч пачаў там працаваць, у незалежным прафсаюзе налічвалася каля 900 чальцоў, сёння іх засталося крыху больш за сотню. Магчыма, такія лічбы камусьці пададуцца даволі сумнымі. Мяне ж шчыра радуюць, бо гэта азначае, што ўлада, нягледзячы на татальныя «зачысткі», калі людзям прапануюць выбар паміж кавалкам хлеба і перакананнямі, не здолела дасягнуць «эфекту спаленага поля».

## Арыенціры на будучыню

У 2002 годзе была абвешчана кампанія чарговых мясцовых выбараў, якія адбыліся ў годзе наступным, і Сяргей Антусевіч першы раз вырашыў балатавацца. І ніхто з яго бліжэйшага атачэння не стаў з гэтым рашэннем спрачацца.

Выбарчая акруга ў яго была невялікай — усяго сем тысяч выбаршчыкаў, якія ў асноўным жылі ў працоўных інтэрнатах. Хаця там спачатку было тры кандыдаты, асноўным сваім супернікам Сяргей не без пастаў лічыў тагачаснага першага сакратара гаркаму БРСМ, на баку якога была ўся ўладная вертыкаль.

Сяргея Антусевіча гэта не засмуціла. Ён перамог у першым туры, перамог і ў другім. Інакш і быць не магло, бо для выбаршчыкаў ён быў «сваім хлопцам», тым больш, што ўся выбарчая кампанія была пабудавана на прынцыпе «ад дзвярэй да дзвярэй».

Гэтыя словы мне даводзілася чуць так шмат разоў, што, калі б яны цалкам адпавядалі рэчаіснасці, у краіне даўно быў бы іншы кіраўнік... А так... Ці дзверы былі не тымі... Ці падыходзілі да іх толькі ў папяровых справаздачах.

Шмат даводзілася чуць і пра фальсіфікацыі, у якіх ніхто (са свядомых людзей) ніколі не сумняваўся. Ведала пра іх і каманда Сяргея Антусевіча, але веды яшчэ не азначаюць гарантыю поспеху. Трэба ўмець разумна ім супрацьстаяць. Што і было зроблена.

Да бліжэйшых парламенцкіх выбараў улада ўжо падрыхтавалася. Напэўна, нехта з мясцовых ідэолагаў добра разумеў, што перамагчы Антусевіча ў рэальным спаборніцтве практычна немагчыма, і яго банальна не зарэгістравалі.

Канешне, гэта быў моцны ўдар па ўсёй камандзе Сяргея, аднак яны не здаліся. І здолелі арганізаваць такое пільнае назіранне за выбарамі, што фальсіфікаваць вынікі ўладам не ўдалося. 52-я гродзенская выбарчая акруга стала тады адзінай (!) ва ўсёй Беларусі, дзе выбары не адбыліся.

На мой погляд, гэта яскравы прыклад таго, як трэба змагацца за сваю перамогу. І аргумент у дыскусію аб байкоце. Зразумела, у працаўнікаў беларускай улады ёсць рацыя скардзіцца на неспрыяльныя ўмовы, але трэба разумець, што яны ніколі не будуць цяплічнымі. На жаль, сітуацыя ў краіне для апанентаў улады значна пагоршылася ў параўнанні з тым, што было раней, аднак гэта не можа быць вечным апраўданнем усіх параз.



ТРЭЦІ СЕКТАР

# ПАЎСЮЛЬ ПРАВАЛ, БО НЕ СУПРАЦІЎЛЯЕМСЯ

Вольга ХВОІН

**Беларуская Нацыянальная платформа Форуму грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» абрала кіраўніка і склад каардынацыйнага камітэта. Узначаліў камітэт кіраўнік Рады Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь» Уладзімір Мацкевіч. Аднак, па словах самога Мацкевіча, беларускаму трэцяму сектару за апошні час асабліва няма чым пахваліцца. Да знешніх прычынаў, якія тармозяць развіццё грамадзянскай супольнасці, дадаюцца і ментальныя — беларусаў складана аб'ядноўваць дзеля якой бы тое ні было ідэі.**




«У Нацыянальнай платформы Форуму грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» рэальна няма дасягненняў і перамог, — крытыкаваў прадстаўнікоў трэцяга сектару ў часе канферэнцыі Уладзімір Мацкевіч. — У нас самыя кепскія балы па ўсіх паказчыках устойлівасці грамадзянскай супольнасці. Гэта і прававы асяродак, і арганізацыйнае развіццё, і фінансавая ўстойлівасць, інфраструктура, імідж у вачах грамадства. Паўсюль у нас правал! Мы можам сказаць, што ў гэтага правалу ёсць вонкавыя прычыны. Але я бачу галоўным чыннікам той факт, што ў нас нізкая актыўнасць, безыніцыятыўнасць Нацыянальнай платформы Форуму грамадзянскай супольнасці. Лукашэнка і яго рэжым праводзяць сваю палітыку, і робяць гэта паспяхова, бо мы не супраціўляемся. Мы антаганісты, але мусім праводзіць сваю лінію, і гэтага не робім. Нацыянальная платформа не павінна адмаўляцца ад палітызацыі, бо яна мусіць адстойваць свае пазіцыі. Але мы не пакліканыя замяняць палітычныя структуры».

Працягваючы тэму раз'яднанасці прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, Улад Вялічка, кіраўнік міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь», гаворыць, што ў такім працэсе няма нічога ненатуральнага, бо «раз'яднанасць і трэцяга сектару, і беларускага грамадства — гэта наш доўгатэрміновы стан».

— Палітычны бамонд не можа ўступіць у камунікацыю з грамадскім сектарам, той, у сваю чаргу, не можа аб'яднацца дзеля нейкай задачы, рэлігійныя арганізацыі нічога не ведаюць пра грамадскія аб'яднанні, прафсаюзы існуюць самі па сабе і гэтак далей. Таму Нацыянальная платформа — гэта адзін з нешматлікіх прыкладаў складанай працы аб'яднання арганізацый дзеля агульнай мэты, — мяркуе Вялічка.

Яшчэ адна з праблем трэцяга сектару краіны — ігнараванне працы на ўласны імідж у вачах грамадзян. Калі дзяржаўная прапаганда старанна культывуе ідэі «адмарозкаў» і «пятай калоны», то прадстаўнікі гэтай супольнасці амаль нічога не робяць, каб не выглядаць у вачах абывацеляў акурат такімі.

— Арганізацыі не думаюць, што гэта іх справа і абавязак, не імкнуцца даводзіць свае канцэпты да людзей. Калі мы гаворым «правы чалавека», то людзі палохаюцца, хаця насамрэч гэта тычыцца кожнага ў паўсядзённым жыцці, — тлумачыць Улад Вялічка наступствы абыякавага падыходу да пазіцыянавання арганізацый.

Варта нагадаць, што праграму «Усходняе партнёрства» Беларусь выкарыстоўвае ў вельмі абрэзаным фармаце. А такі інструмент праграмы, як Форум грамадзянскай супольнасці, улады ўвогуле ігнаруюць. Адпаведнае стаўленне і да яго ўдзельнікаў.

— Палова краіны існуе ў сітуацыі, калі ўлада яе не заўважае. На сённяшні дзень улады сапраўды ігнаруюць праграму «Усходняе партнёрства», але ў пэўных сегментах можна нечага дамагацца, шукаць прымальныя фарматы. Тым больш цяпер запушчаны Еўрапейскі дыялог дзеля мадэрнізацыі, што можна расцэньваць як другое дыханне для «Усходняга партнёрства», — гаворыць Улад Вялічка. — Гэта вяртанне Беларусі ў еўрапейскі вектар развіцця, бо цяпер улады цалкам развярнуліся на Усход, але мы мяркуем, што гэта не адпавядае нацыянальным інтарэсам. Важна захаваць фармат удзелу Беларусі ў еўрапейскіх працэсах. Калі цяпер усё згарнуць, то ў патрэбны момант давядзецца пачынаць з нуля, а гэта вельмі затратна і складана.

Кіраўнік выканаўчага бюро Асамблеі НДА Сяргей Лісічонак таксама расцэньвае еўрапейскія праграмы для Беларусі як магчымасць атрымаць неабходны досвед, нават калі цяпер яго няма да чаго прыкласці.

— Наша грамадзянская супольнасць гатовая працаваць у рэчышчы супрацоўніцтва з ЕС, а ўрад — не. Але для Беларусі Форум грамадзянскай супольнасці ёсць важным па некалькіх прычынах: нашы людзі ўдзельнічаюць у працэсах, наколькі гэта магчыма, выпрацоўваюцца навыкі па маніторынгу, ацэнкі працэсаў. І як толькі з'явяцца ўмовы, то гэтыя навыкі можна будзе скіраваць на працу дзеля Беларусі. Нават цяпер ёсць магчымасці для прасоўвання беларускіх інтарэсаў сіламі грамадзянскай супольнасці. Як прыклад — Балонскі камітэт. Яны змаглі прасунуць сваю ідэю праз Форум грамадзянскай супольнасці, іх пазіцыю пачулі і прынялі. Трэці аспект: праз гэтыя інструменты рыхтуюцца людзі для працы ва ўмовах новай Беларусі. Было б наіўна думаць, што, як толькі адбудуцца змены ў краіне, у нас з ніадкуль з'явяцца спецыялісты і эксперты, гатовыя працаваць у новых правілах, — падкрэслівае Сяргей Лісічонак.

Да Форуму грамадзянскай супольнасці праяўляюць цікаўнасць праўрадавыя грамадскія арганізацыі. Напрыклад, прафсаюзы. Праўда, па словах Улада Вялічкі, ёсць негатыўная рэакцыя на ўдзел у ФГС УП прадзяржаўных арганізацый ад аднаго з заснавальнікаў — Еўрапейскага эканамічна-сацыяльнага камітэту. Прычына ў тым, што гэтыя структуры не ёсць насамрэч незалежнымі прафсаюзамі, а хутчэй нейкім міністэрствам прафсаюзаў. Яны не адпавядаюць у разуменні еўрапейцаў крытэрам арганізацый трэцяга сектару.

У часе канферэнцыі «Нацыянальная платформа: 2012 — новая рэальнасць у няновых умовах» таксама адбыліся выбары ў склад каардынацыйнага камітэта Нацыянальнай платформы ФГС УП. У яго ўвайшлі Уладзімір Мацкевіч, старшыня Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь» Улад Вялічка, каардынатар Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч, сябар савета грамадзянскай ініцыятывы «Гомельскі дэмакратычны форум» Пётр Кузняцоў, дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі (Lawtrend) Вольга Смалянка і старшыня Асамблеі НДА Сяргей Мацкевіч. Ганаровым членам каардынацыйнага камітэта быў зноў абраны праваабаронца Алесь Бяляцкі, які цяпер знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі.

Канцэпцыю развіцця мяркуецца прыняць на наступнай канферэнцыі беларускай Нацыянальнай платформы ФГС УП восенню бягучага года.

Цяпер падпісалі мемарандум і далучыліся да Нацыянальнай платформы ФГС УП 58 грамадскіх арганізацый Беларусі. У часе канферэнцыі былі абраныя 20 грамадскіх арганізацый, якія будуць рэкамендаваныя да ўдзелу ў чацвёртай сустрэчы Форума грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства», што адбудзецца 29–30 лістапада ў Стакгольме.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# У РОЗНЫХ НАКІРУНКАХ, У АДНЫМ ВАГОНЕ



**«Кожны чалавек, які аднойчы з'еў агурок, памірае», — вось гэтымі звычайнымі словамі, складзенымі ў радок, Марк Твэн вельмі трапна і з гумарам выказаў улюбёную гегельянцамі «ўсіх часоў і народаў» ісціну — належыць смерці тое, што жыве.**

Калі б не так, было б вельмі страшна. На ўрачыстасцях, прысвечаных святкаванню дзяржаўнага Дня незалежнасці ў Мінску, да гэтай біблейскай ісціны далучыўся і Аляксандр Лукашэнка, які, па сваёй звычцы, звінавацію журналістаў у тым, што яны прыдумалі байку пра Колю як пераемніка бацькавай пасады. Хоць не журналісты ў гэтым павінныя, якія толькі дакладна працытавалі словы Лукашэнкі.

Некалі Лукашэнка, як ён сам прызнаваўся, падабраў уладу, якая валялася ў брудзе. І так за яе ўзяўся, што ў большасці яго падданых знікла надзея пабачыць каго-небудзь іншага ў ролі першай асобы Беларусі. Але Лукашэнка, як ужо адзначалася, не толькі абверг чуткі пра спадчынную перадачу прэзідэнцкай пасады, але і высмеяў высновы наконт таго, што «тут Лукашэнка назаўжды і навечна». Зразумела, многія з нас у гэтым вінныя, але ж ён сам зрабіў столькі магчымага і немагчымага для свайго вечнага палітычнага ўсталявання, што ў яго паверылі нават барадатыя «праваслаўныя матэрыялісты» з гуманітарных факультэтаў былых савецкіх ВНУ.

А так — усё зразумела: Ленін памёр, Сталін памёр, Брэжнеў памёр, я таксама сябе кепска адчуваю... Старая аптымістычная студэнцкая хохма з тых часоў, калі жыццё здавалася вясёлым і бясконцым. Не можа не памятаць пра гэта некалі двойчы студэнт Лукашэнка.

Лічым пытанне аб вечным палітычным існаванні «галоўнага палітыка краіны» закрытым. Як кажуць, ніхто за язык не цягнуў, сам сказаў. А слова — не верабей, вылеціць — не зловіш. Тым болей, што цягам апошняга тыдня сказана шмат слоў не толькі ім, але і яго вядомымі і невядомымі паплечнікамі. Прыкладам, пра тое, што Беларусь у найноўшую гісторыю крочыць сваім асабістым, адмысловым крокам. Не так, як раней, калі крочыла ў складзе Перадавога авангарда ўсяго чалавецтва, што вызначаў і курс, і лінію, і мэту і тэмп хады.

А зараз і разам крочым, і быццам бы самастойна, у розныя бакі. Да таго ж маем магчымасць прысесці і адпачыць, калі зморымся. Такое адбываецца (чаму даводзілася быць сведкам), калі людзі з розных нагодаў едуць у адным вагоне ў розных накірунках. Часцяком такія пасажыры едуць куды вочы глядзяць. Для іх мае значэнне толькі працэс руху. Іншыя варыянты больш змястоўныя. Добра, калі напрамак руху адпавядае мэтам хоць бы аднаго пасажыра. А калі абодва едуць не туды, куды трэба, — гэта ж натуральная трагедыя. У такой сітуацыі слаба суцяшае той факт, што кожны сам робіць свой выбар.

Калі кіраўнік Беларусі кажа, што краіна самастойная ў выбары, ён збольшага думае пра сябе і сапраўды цешыцца надзеяй, што «ні на Усходзе, ні на Захадзе, ні на Поўначы, ні на Поўдні няма тых сіл, якія змусяць нас падпарадкавацца і стаць на калені».

На самай справе, сітуацыя ў нас і з намі не горшая і не лепшая, чым у іншых. Папросту яна іншая. Можна, прыкладам, не выходзіць з адборачнай групы, каб не трапіць у фінальную частку чэмпіянату свету па футболу, каб «не трапіць» на бразільцаў, якія, хутчэй за ўсё, саб'юць нашу «дрым-цім» на порхаўку. А з іншага боку, той, хто хоць і няўдала гуляў з «чараўнікамі мяча», але змагаўся і цярпеў, маюць вялікую павагу сярод сваіх калегаў.

У іншых сітуацыях і рэакцыя павінна быць іншай. Не мае ніякага сэнсу ў тым, каб спаборнічаць з Кітаем у вытворчасці танных тавараў масавага спажывання. Не трэба, карацей, галаву ламаць. Беларусь існуе ў якасці незалежнай дзяржавы таму, што гэта патрэбна амаль усім яе суседзям і іншым палітычным суб'ектам, зацікаўленым, каб не парушыўся новы парадак у свеце, які атрымалася амаль што цудам усталяваць пасля краху СССР, і амаль без крыві.

Магчыма, я памыляюся, што гэта ўласціва кожнаму чалавеку. Але ж як няма «грушы ўвогуле», так не бывае інтэграцыі «ўсіх часоў і народаў». Лукашэнка цвердзіць, што асаблівы шлях Беларусі вызначаецца праз інтэграцыю з Расіяй і іншымі савецкімі рэспублікамі, мы лічым, што гэта шлях да ўвекавечання нашай тэхналагічнай і сацыяльнай адсталасці, якая ўзнікла падчас «самастойнага існавання» ў складзе СССР.



## 13 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Мультфільмы.
**10.00** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Журналісцкае расследаванне.
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.15** Серыял «Маргоша».
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.10** Зона камфорту.
**18.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.35** Ведай нашых.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2012». «Песні лета».
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Крымінальны трылер «Забойствы на рацэ Грын» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Дэтэктар хлусні».
**12.10** Тэорыя неверагоднасці.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.15** Прэм'ера. Фільм «Згінуўшы без весткі».
**02.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Ідэальны сябар» (Францыя, 2006 г.).
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял. Заключная серыя.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Адкрыйце, паліцыя!» (Францыя, 1984 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Еўрапейскі покерны тур».
**00.35** Прэм'ера! «Мода на рускае».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Драматычны серыял «Вар'яты-4» (ЗША).
**10.50** Еш і худней.
**11.20** Школа рамонту.
**12.40** Страсці па культуры.
**13.20** Біяграфічная драма «Жыццё з Джудзі Гарленд» (ЗША – Канада). 2-я серыя.
**15.10** Вышэй за дах.
**15.45** Мультсерыял «Сямейка пiратаў» (Канада).
**16.40** Жансавет.
**17.15** Беларуская кухня.
**16.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Музычная меладрама «Урокі танга» (Францыя – Вялікабрытанія – Аргенціна).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.20** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету.
**00.55** Фантастычны трылер «Экзістэнцыя» (Канада).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**08.55** Більярд. Міжнародны турнір «Minsk open-2012».
**10.05** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**11.00** Весткі.
**11.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**11.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** Навіны культуры.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Еўфрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Здзіві мяне» (2011 г.).
**22.20** Урачыстая цырымонія адкрыцця фэсту «Славянскі базар у Віцебску».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** Фільм «Заселеная выспа. Сутычка» (2009 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** І зноў добры дзень!
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вочная стаўка.
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Прафесія-рэпарцёр.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы-3».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Профіль забойцы».
**23.10** «Ахтунг, русіш!».
**00.05** Вострасюжэтны фільм «Ценевы партнёр».

### EUROSPORT

**10.30** Аўтаспорт. Ралі Шаўковы шлях. Этап 6.
**10.45** Разам у Лондан. Алімпійскі часопіс.
**11.00, 20.00** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Барселона. Дзень 4.
**13.00, 03.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 12.
**19.15** Веласпорт. Тур Польшчы. Этап 4.
**00.00** Снукер. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. 1/4 фіналу.
**00.55** Карціна дня. Часопіс.
**01.00** Тэніс. Турнір WTA. 1/4 фіналу.
**02.45** Аўтаспорт. Ралі Шаўковы шлях. Этап 7.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Акварыум», серыял: 1 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.40** «Час гонару», серыял: 24 серыя.
**09.25** «Тэра постсаветыка. Надзя – цела-ахоўніца палітыкаў», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Антон Астаповіч: каб ведалі, адкуль наш род!», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.45** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**11.10** «Дэфект», тэлесерыял: 6 серыя.
**12.05** «Гаспадар...», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**12.30** «Акварыум», серыял: 1 серыя.
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**13.35** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Згаі», серыял 3 серыя.
**14.20** «Тэра постсаветыка. Надзя – цела-ахоўніца палітыкаў», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**14.55** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.25** «Антон Астаповіч: каб ведалі, адкуль наш род!», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.45** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**16.05** МакраФон: «Басовішча-2008», канцэрт гурта «Neuro Dubel».
**16.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.10** «Кароль-вінароб», серыял: 4 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 6 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Аляксандр Ісачоў. Майстар і Афрадыта», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Гуканне вясны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.55** «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**23.55** Размовы эксперта.
**00.15** Аб'ектыў.
**00.40** «Дэтэрмінатар», серыял: 5 серыя.
**01.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 14 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.15** Дэтэктыўны серыял «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка» (Расія).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка» (Расія).
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Меладрама «Каханне адно» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.35** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзень першы.
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Камедыйная драма «Марго на вяселлі» (ЗША).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** «Смешарыкі. ПІН-код».
**11.40** Камедыя.
**13.35** «Цені знікаюць апоўдні». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вяпрук» Шматсерыйны фільм.
**18.20** Фільм «Планета Ка-Пэкс».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вялікая розніца».
**22.10** Фільм «Невыносная жорсткасць».
**00.00** Зоркі сусветнага джаза ў юбілейным канцэрце Ігара Бутмана.

### СТВ

**06.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.20** «Анфас».
**07.35** «Салдаты-14». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Адкрыйце, паліцыя!» (Францыя, 1984 г.).
**12.55** «Прыгоды дылетанта».
**13.25** Фільм «Яна вас кахае» (СССР, 1956 г.).
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Небяспечны месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.35** Фільм «Жаночыя слёзы» (Украіна, 2006 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Слава» (ЗША, 2009 г.).
**22.05** «Зорны рынг». Лепшае.
**23.05** «Меч». Серыял. Заключная серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.50** Дабравест.
**08.15** Мір вашай хаце.
**08.30** Музычная меладрама «Урокі танга» (Францыя – Вялікабрытанія – Аргенціна).
**10.25** Пра мастацтва.
**10.55** Тэлебарометр.
**11.05** Школа рамонту.
**12.10** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.20** Наперад у мінулае.
**13.55** Беларуская кухня.
**14.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.05** Музычная камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. ФК Мінск – Славія (Мазыр). Прамая трансляцыя.
**18.55** «Футбол. Чэмпіянат свету-2014».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.15** Крымінальны баявік «Уцёкі з Алькатраса» (ЗША).
**00.15** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету.
**01.45** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Дзіўныя дарослыя».
**08.30** Фільм «Здзіві мяне» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** Фільм «Што хавае каханне» (2010 г.).
**13.30** «У свеце жывёл».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**15.05** «Ружа з шыпамі для Мірэй. Руская француджанка».
**16.05** Фільм «На сямі вятрах».
**18.05** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Мой любімы геній» (2012 г.).
**23.55** Фэст «Славянскі базар-2012».

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** Выратавальнікі.
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**15.10** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.05** Вочная стаўка.
**18.00** «Увага, вышук!».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** «Самыя гучныя рускія сенсацыі».
**22.15** Ты не паверыш!
**23.05** Вострасюжэтны фільм з цыклу «Важняк».
**00.40** Вострасюжэтны фільм «Адзіночка».

### EUROSPORT

**10.30** Фітнес. Часопіс.
**10.40** Спартовы шлях. Часопіс.
**10.45, 14.30** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 12.
**11.45** Снукер. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. 1/2 фіналу.
**13.15** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Масква. Заезд 1.
**16.00, 03.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 13.
**19.30** Веласпорт. Тур Польшчы. Этап 5.
**21.00** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Барселона. Дзень 5.
**00.00** Конны спорт. Global Champions Tour.
**01.30** Часопіс.
**01.45** Футбол. Чэмпіянат Еўропы сярод гульцоў да 19 гадоў. Жанчыны. Фінал.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**08.00** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 11 серыя.
**08.30** «Мой родны горад», серыял: 11 серыя.
**08.55** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.30** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 6 серыя.
**11.10** «Акварыум», серыял: 1 серыя.
**12.00** Англійская для дзяцей.
**12.05** Казкі для дзетак.
**12.40** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 11 серыя.
**13.10** Беларускія лёсы: «Аляксандр Ісачоў. Майстар і Афрадыта», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**13.35** «Дэтэрмінатар», серыял: 5 серыя.
**14.20** «Гуканне вясны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**14.55** «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**17.00** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**17.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 6 серыя.
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.40** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 5 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Найгалоўнейшы бос», камедыя, 2006 г., Данія.
**23.25** Аб'ектыў.
**23.40** «Арол: крымінальная сага», серыял: 11 серыя.
**00.40** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 15 ліпеня, нядзеля

### Беларусь 1

**06.55** Існасць.
**07.25** Меладрама «Каханне адно» (Расія-Ўкраіна).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**11.00** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.30** Мультфільмы.
**12.00** Навіны.
**12.15** Медычныя таямніцы.
**13.15** Тэлестужка АТН «Аляксандр Ціхановіч: першыя 60».
**14.05** Час Саюза.
**15.00** Навіны.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** «Ох і Ах». Мультфільм.
**15.45** Трагікамедыя «Рабыня кахання» (СССР).
**17.30** Каробка перадач.
**18.05** Суперлато.
**19.00** Рамантычная камедыя «Папялушка.ru» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзённік.
**22.40** «Славянскі базар у Віцебску-2012». Дзень другі.
**00.45** Крымінальная драма «Забойства Джона Ленана» (Вялікабрытанія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** Прэм'ера. Дэтэктыў «Закон звартотнага чараўніцтва».
**15.00** Прэм'ера. «Лабірынты Рыгора Лепса».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Фільм «Шкодны здаровы лад жыцця».
**17.20** «Лепшыя моманты «Поля цудаў».
**18.35** «Проста смех!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Цырымонія ўручэння народнай прэміі « Залаты грамафон».
**00.15** Камедыя «Дзе знаходзіцца нафелет?».

### СТВ

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік» прадстаўляе: самае смешнае.
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** Фільм «Слава» (ЗША, 2009 г.).
**12.55** «Добры дзень, доктар».
**13.30** Фільм «Таямніца чорных драздоў» (СССР, 1983 г.).
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дзяўчына з прыгарада» (ЗША, 2007 г.).
**22.30** «Пякельная кухня».
**23.45** Фільм «Валізкі Тульса Люпера» (Расія - Германія - Вялікабрытанія - Нідэрланды - Іспанія - Люксембург, 2003 г.).

### Беларусь 2

**08.00** Размова са святаром.
**08.10** Прыступкі Веры.
**08.25** Таямніца душы.
**08.50** Музычная камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Бухта капітанаў.
**14.15** Фільм для ўсёй сям'і. «Гэй, Арнольд!» (ЗША).
**15.45** Музычны фільм.
**18.30** «Футбол. Чэмпіянат свету-2014».
**19.00** Рамантычная камедыя «Басанож па парку» (ЗША).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Спорт-кадр.
**22.25** Містычны трылер «Змярканне» (ЗША).
**00.10** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету.
**01.45** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Россия

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** Мультфільмы.
**07.45** Мастацкі фільм «Мой любімы геній» (2012 г.).
**11.00** Весткі.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама».
**12.30** Фільм «Чароўная сіла».
**13.45** «Уся Расія».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Я - кібарг. Чалавек будучыні. Якімі мы будзем».
**15.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.50** Мастацкі фільм «Замяшанне пачуццяў».
**17.25** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**19.15** «Рассмяшы коміка».
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Шчасце ёсць» (2011 г.).
**23.55** Фэст «Славянскі базар-2012».

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.20** «Жаночы погляд».
**11.05** Дачны адказ.
**12.10** «Крамлёўскія пахаванні».
**13.00** Сёння.
**13.30** Серыял «Дарожны патруль».
**15.10** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.00** І зноў добры дзень!
**17.55** «Бывае ж такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** Сёння.
**19.25** Чыстасардэчнае прызнанне.
**21.55** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.55** Фільм з цыклу «Важняк».
**00.35** «Увага, вышук!».

### Eurosport

**10.30** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 13.
**11.45** Тэніс. Турнір WTA. 1/2 фіналу.
**13.15** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Масква. Заезд 2.
**14.30** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 13.
**16.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 14.
**19.30** Веласпорт. Тур Польшчы. Этап 6.
**21.00** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Барселона. Дзень 6.
**22.30** Футбол. Чэмпіянат Еўропы сярод гульцоў да 19 гадоў. Фінал.
**00.30** Тэніс. Турнір WTA. Фінал.
**01.45** Мотаспартыўны часопіс.
**02.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 14.
**03.15** Мотаспартыўны часопіс.

### Белсат tv / Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак.
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 12 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 12 серыя.
**08.40** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.55** Побач з намі.
**09.10** «Дэфект», тэлесерыял: 6 серыя.
**10.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**11.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.45** Англійская для дзяцей.
**11.50** Казкі для дзетак.
**12.20** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 12 серыя.
**12.50** «Арол: крымінальная сага», серыял: 11 серыя.
**13.50** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**14.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 5 серыя.
**14.45** Аўтастопам праз Еўропу.
**15.00** «Найгалоўнейшы бос», камедыя, 2006 г., Данія.
**16.35** Форум (ток-шоу).
**17.20** «CIA: таемныя войны», 2008 г., Францыя: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі».
**18.15** «Каралева Бона», тэлесерыял: 6 серыя.
**19.15** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Італьянец», маст. фільм, 2005 г., Расія.
**23.50** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.30** «Арол: крымінальная сага», серыял: 12 серыя.
**01.30** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

ф. ПС 112

БЕЛПОЧТА

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

МЕРКАВАННЕ

# НАСТАЛЬГУЮЧЫ ПА ГУЛЯШУ

**Венгрыя адзначае 100-ю гадавіну з дня нараджэння Янаша Кадара — аўтара мадэлі «гуляшнага сацыялізму». Пра месца Янаша Кадара ў венгерскай гісторыі і яго палітычную спадчыну журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з венгерскім палітолагам Маціясам Бенікам.**



## Даведка:

Янаш Кадар (26 мая 1912 — 6 ліпеня 1989) — камуністычны лідар Венгрыі з 1956 па 1988 гады. Падчас Другой сусветнай вайны Янаш Кадар быў актыўным удзельнікам руху Супраціву ў Чэхаславакіі, Венгрыі і Югаславіі. Не падтрымаў паўстання 1956 года і ўзначаліў прасавецкі пераходны ўрад. За час свайго кіраўніцтва партыяй і дзяржавай ажыццявіў шэраг наватарскіх эканамічных рэформаў, якія спрыялі лібералізацыі эканомікі і росту ўзроўню жыцця, і доўгі час яго паказчыкі былі роўныя стандартам развітых заходніх краін.

***— Ці згадваюць Янаша Кадара ў посткамуністычнай Венгрыі?***

— Пару гадоў таму ў нас праводзілася шоў «Герой Венгрыі», калі шляхам галасавання гледачы выбіраюць самую значную на іх думку фігуру ў нацыянальнай гісторыі. Трэцім па папулярнасці венграм у гісторыі аказаўся Янаш Кадар, які прапусціў наперад двух сярэднявечных венгерскіх каралёў. Інфармацыя пра тых манархаў будуецца на летапісах, у якіх яны малююцца выключна ў пазітыўным ракурсе. Між тым, Кадара памятае большая частка насельніцтва, ведае яго асабістыя плюсы і мінусы. Таму трэцяе месца ў гэтым спісе вельмі ганаровае. Асабліва, калі згадаць, што пасля пераходу да дэмакратыі ў афіцыйнай гістарыяграфіі Кадар выстаўляецца як вельмі негатыўны персанаж, які пагадзіўся на супрацоўніцтва з Саветамі пасля падаўлення імі паўстання 1956 года.

***— Чаму, на вашу думку, Кадар здрадзіў свайму сябру Імрэ Надзю, які заклікаў да супраціву савецкай арміі? Вядома, што Кадар быў дырэктарам МУС у кабінеце Надзя, і нават спачатку выступаў прыхільнікам ідэі вайны з савецкімі акупантамі...***

— Канчатковы адказ ведае выключна сам Кадар, якога пасля пачатку паўстання даставілі ў Маскву і прапанавалі ўзначаліць венгерскі прасавецкі ўрад. Гісторыкі называюць шмат матываў для прыняцця прапановы Крамля. Магчыма, Кадар разумеў, што без падтрымкі Захаду мяцеж не мае шансаў, а Захад на той час устрымаўся ад вайсковай падтрымкі паўстанцаў. Магчыма, як пераканаы камуніст, ён не хацеў пераходу Венгрыі ў зону ўплыву Захаду. Нарэшце, яму маглі пагражаць смерцю ў казематах Лубянкі. Так ці інакш, ён прыняў прапанову Хрушчова і ў выніку змог перагуляць Маскву, якая за знешнюю лаяльнасць пагадзілася даць Венгрыі самую вялікую аўтаномію сярод усіх дзяржаў Варшаўскага блоку, не кажучы пра эканамічную дапамогу, якая заклала асновы венгерскага эканамічнага цуда. Па дамове з СССР Кадар мог набываць танныя энерганосьбіты і адначасова прадаваць у СССР за валюту венгерскія прадукты. Гэта ў сваю чаргу дазваляла браць крэдыты на Захадзе.

***— Гэтая схема чымсьці падобная на тое, што робіць Мінск, набываючы ў Расіі танныя нафтапрадукты і перапрадаючы іх на Захад.***

— Паляпшэння эканомікі мала, каб урад атрымаў легітымізацыю ў вачах грамадзян. Пры Кадары праводзілася гнуткая ўнутраная палітыка, якая была заснаваная на прыцягненні людзей да ўдзелу ў прыняцці рашэнняў. У пачатку 1960-х гадоў у партыі была дазволена ўнутраная дэмакратыя. Ледзь не сілай былі навязаны прынцып абавязковай наяўнасці альтэрнатыўных кандыдатаў на выбарах. На прадпрыемствах былі створаныя т. зв. «чацвёркі» — саветы прадстаўнікоў камсамолу, парткому, прафсаюзаў і адміністрацыі, якія вызначалі курс прадпрыемства і былі гаспадарамі рэсурсаў. Дзесьці гэта мадэль спрацавала, дзесьці — не, аднак ілюзію народаўладдзя яна зрабіла.



Янаш Кадар (у цэнтры) з Мікітам Хрушчовым і Леанідам Брэжневым



Напрыканцы жыцця Янаш Кадар апынуўся ахвярай уласных таварышаў па партыйнаму кіраўніцтву

Як ілюстрацыя — з 400 тысяч чалавек, якія пакінулі краіну падчас паўстання, прыкладна палова ў 1960-я гады вярнулася на радзіму. Як вынік, дысідэнцкі рух у Венгрыі быў вельмі слабы, паколькі дэбаты былі дазволеныя. Хаця толькі ўнутры партыі.

***— Што ўвогуле ўяўляла сабой апазіцыя ў часы Кадара?***

— Было некалькі фракцый. Так, адмірал Хорці, які збег пасля Другой сусветнай вайны ў Партугалію, намагаўся падтрымліваць асяродкі падполля. Пачынаючы з 1960-х гадоў палітычная эміграцыя пачынае аб'ядноўвацца вакол рэдакцыі венгерскай службы «Радыё Свабодная Еўропа». Аднак дзейнасць праціўнікаў Кадара была вельмі дзіўная, асабліва з улікам таго, што, пачынаючы з 1970-х гадоў, Захад зразумеў: венгерская мадэль ёсць вельмі прываблівая ў вачах жыхароў краін Варшаўскага блоку і дае магчымасць прагрэсіўнай фракцыі кампартый заклікаць да ўвядзення ў сваіх краінах элементаў дэмакратыі і рынкавай эканомікі, як гэта робіцца ў Венгрыі. Найбольш вядомай сімвалічнай акцыяй у падтрымку Кадара з боку Захаду была ўрачыстая перадача ў 1979 годзе з ЗША ў Будапешт кароны венгерскіх каралёў, так званай Святой Кароны караля Іштвана Першага. Венгерская апазіцыя расцаніла гэты акт адміністрацыі Картэра як здраду. З-за вялікай ступені лібералізацыі галоўнымі выразнікамі пратэсту былі моладзевыя рок-калектывы. Аднак паколькі яны былі ўдзельнікамі субкультуры хіпі, іх крытыка мела характар індывідуальнага, духоўнага, а не палітычнага пратэсту.

***— У Савецкім Саюзе было шмат анекдотаў пра генсекаў. А ў сацыялістычнай Венгрыі распавядалі анекдоты пра Кадара?***

— Так. Як правіла, у такіх жартах Кадар выступае як хітры ліс, які павінен пераканаць Маскву ў тым, што адданы ёй, а сам між тым робіць тое, што яму патрэбна. Таксама хадзілі чуткі, што сам Кадар часта дае зразумець, што ён не верыць у прапаганду пра венгерска-савецкае сяброўства. Быццам, падчас рознага кшталту з'ездаў, калі гаворка пра гэта заходзіла, ён хітра з намёкам падміргваў.

***— Вядома, што важнай часткай цяперашняй палітычнай дыскусіі ў Венгрыі з'яўляецца тэма аб'яднання ўсіх этнічных венграў, якія пасля Першай сусветнай вайны апынуліся па-за межамі радзімы, у рамках адной дзяржавы. А ці ўздымалася гэта пытанне ў часы Кадара?***

— Практычна ніколі, хаця адносіны з Румыніяй (там жыве шмат венграў) былі вельмі напружаныя. Толькі ў пачатку 1980-х гадоў пачаліся размовы пра тое, што Венгрыя павінна нейкім чынам дапамагаць суайчыннікам у замежжы. Аднак на той час гэта было ўжо часткай барацьбы ў апараце за месца пераемніка Кадара, які з-за салідных гадоў стаў хутчэй, фармальным лідарам.

***— Вы кажаце пра вялікую папулярнасць Кадара сярод венграў, аднак на палітычным полі дамінуюць правыя партыі. Чаму адсутнічае палітычная сіла, якая гуляе на настальгіі па часах «гуляшнага сацыялізму»?***

— Калі ў 1989 годзе Венгерская рабочая сацыялістычная партыя стала на шлях сацыял-дэмакратыі, частка яе сяброў стварыла апазіцыйную Венгерскую рабочую партыю. Яна сапраўды спрабуе спекуляваць на спадчыне Кадара, аднак вялікіх электаральных гешэфтаў ёй гэта не прыносіць. Магчыма, патрэбны час, каб стаў відавочным правал канцэпцыі венгерскай дзяржавы, якую прапануе цяперашні кансерватыўны ўрад. Тады ў грамадстве будзе попыт на сацыяльную альтэрнатыву, і, магчыма, напрацоўкі Кадара стануць зноў цікавымі.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Аналізуючы выказванні еўрапейскіх чыноўнікаў, эксперты мяркуюць, што ў найбліжэйшай перспектыве Мінск могуць чакаць новыя санкцыі ЕС. Па іх меркаванні, зацішша было звязана не толькі з тым, што ў ЕС шмат сваіх праблем, але і з тым, што неасцярожнымі рухамі яны маглі паставіць пад пагрозу вызваленне палітвязняў па амністыі. Прыняцце закона ясна дало зразумець — Лукашэнка дэманстратыўна не збіраецца нікога выпускаць без гандлю.

**«Независимая газета» (Расія)**

Ізаляваны Захадам Лукашэнка прыехаў у Кіеў разам з малалетнім сынам, якога назваў пераемнікам. На стадыёне ён сядзеў поруч з празаходнім прэзідэнтам Грузіі Міхаілам Саакашвілі. Той размаўляў, жартаваў, не было відаць, каб ён быў збянтэжаны сустрэчай з беларускім лідарам, ізаляваным Захадам. У любым выпадку, Саакашвілі выдатна ведае Лукашэнку. Астатнія ганаровыя госці, якія прысутнічалі на матчы Іспаніі з Італіяй — прэзідэнты Польшчы і Італіі, прэм'еры Італіі і Іспаніі і прэзідэнт Украіны — сядзелі ў суседняй ложы, каб не мець кантакту з Лукашэнкам. Да скандалу не дайшло. Саакашвілі выратаваў сітуацыю. «Стадыён у Кіеве настолькі вялікі, што змяшчаюцца на ім усе», — сказаў польскі прэзідэнт.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Яшчэ адным галаўным болем беларускага рэжыму стала чэрвеньская сесія Савета ААН па правах чалавека. На ёй быў заслуханы даклад вярхоўнага камісара пра сітуацыю ў Беларусі на падставе гадавога маніторынгу. Шматлікія краіны выказалі заклапочанасць парушэннямі правоў чалавека ў краіне і выступілі за прыняцце жорсткай рэзалюцыі і за прызначэнне спецдакладчыка ААН па Беларусі. Прадстаўнікі рэжыму працуюць над тым, каб прадставіць вызваленне Саннікава і Бандарэнкі ў выглядзе «прагрэсу ў галіне правоў чалавека». Калі падобная ацэнка заменіць сабой жорсткую рэзалюцыю, то для Лукашэнкі будзе адкрыты шлях да новых крэдытаў і «дыялогу» з Захадам. Без спецдакладчыка сітуацыя ў Беларусі будзе пагаршацца з маўклівай згоды міжнароднай супольнасці.

**«EUobserver» (Бельгія)**

Не выключана, што арышт Андрэя Пачобута — проста вынік адсутнасці каардынацыі дзейнасці розных сілавікоў. Аднак больш праўдападобна, што справа тут шмат у чым у нацыянальнасці журналіста. Справа ў тым, што ён этнічны паляк, намеснік старшыні неафіцыйнага саюзу палякаў Беларусі. І гэта акалічнасць, трэба думаць, не пакіне без увагі кіраўніцтва Польшчы, якое мае ў ЕС немалы ўплыў. Такім чынам тое, што ў Беларусі «пасадзілі журналіста», прапаганда лёгка памяняе на загаловак «Польшча ваюе з Беларуссю». Ужо ўспомнілі пра гістарычныя крыўды, пра сутыкненні паміж рускімі і палякамі на Еўра–2012. Словам, рускія браты, не кідайце ў бядзе, дайце саюзнікам грошай! І хто адмовіць?

**«Россбат» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БЕЛЬГІЯ. ПАЧАЛАСЯ РЭАБІЛІТАЦЫЯ ВЕДЗЬМАЎ

Мода рэабілітаваць жанчын, асуджаных у сярэднявечныя часы за вядзьмарства, апошнім часам папулярная не толькі ў Германіі. У Бельгіі таксама прайшоў першы такі працэс. Бургамістр горада Ньюпарт пастанавіў рэабілітаваць 17 гараджан, якіх у XVII стагоддзі адправілі на вогнішча за кантакты з д'яблам. Па словах мэры, ахвяры інквізіцыі ніякіх кантактаў з сатаной не мелі. Дакументы сведчаць, што судзілі іх, як правіла, на падставе даносаў суседзяў, якія выдумлялі самыя фантастычныя гісторыі. У нейкім даносе аўтар піша пра тое, як яго сусед танчыў з самім Люцыферам. Хутчэй за ўсё, ініцыятыву Ньюпарта падхопяць іншыя муніцыпалітэты. Увогуле, па падліках гісторыкаў, у часы палявання на ведзьмаў на тэрыторыі цяперашняй Бельгіі было спалена некалькі тысяч чалавек.

**Паводле бельгійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. СТАЛІН ПЕРАМОГ ТРОЦКАГА

Менавіта так у гістарычнай рэтраспектыве можна ахарактарызаваць працэс, які адбываецца ў самай буйной трацкісцкай арганізацыі Францыі — «Новай антыкапіталістычнай партыі» (NPA). Каля 500 яе сяброў (усяго ў NPA каля трох тысяч чалавек) вырашылі пакінуць партыю, каб далучыцца да Фронту левых — структуры, створанай пад дахам Кампартыі (PCF). Больш таго, лідар раскольнікаў — П'ер-Франсуа Грон, другі чалавек у NPA. Нарэшце, гэта ўжо трэці масавы пераход трацкістаў у камуністы за апошнія пару гадоў. Прычыны гэтага відавочныя — NPA не мае асаблівых перспектыў, у той час як Фронт левых, якім кіруе харызматычны нядаўні кандыдат у прэзідэнты Меленшон, стаў галоўным полюсам левай апазіцыі. Ускосна на перазагрузку левага флангу паўплываў поспех левага блока «Syriza» ў Грэцыі, які па выніках апошніх выбараў стаў другой партыяй у краіне. Шмат хто сярод французскіх левых марыць пра тое, што грэчаскі прыклад можна імпартаваць у Францыю. Што тычыцца трацкістаў, то ім зноў пагражае сыход у маргінальнае асяроддзе, з якога яны быццам вырваліся ў 1990-я гады, калі PCF знаходзілася ў крызісе.

**Паводле французскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. ПРАВА НА ВУЛІЧНЫЯ АКЦЫІ АБМЕЖАВАЛІ


Жан-Франсуа Капэ

«Польскі Пуцін» — такім эпітэтам апазіцыйная прэса ўзнагародзіла прэзідэнта Браніслава Камароўскага пасля таго, як Сейм прагаласаваў за прапанаваныя ім папраўкі ў Закон аб праве на сходы. На думку шмат каго, дакумент нагадвае апошні драконаўскі закон у Расіі пра правілы правядзення вулічных акцый. Законапраект быў унесены на разгляд парламенту пасля таго, як 11 лістапада мінулага года ўльтраправыя арганізацыі бойкамі з паліцыяй і антыфашыстамі адсвяткавалі ў Варшаве Дзень незалежнасці. Новая рэдакцыя закону забараняе правядзенне ў адным месцы больш за адну імпрэзу ў тым выпадку, калі гэта пагражае грамадскай бяспецы. Заяву на акцыю арганізатары цяпер павінны падаваць не за 3 дні, як раней, а за 6. Устаноўлены памер штрафу за парушэнне правіл правядзення мерапрыемстваў, які складае 7 тысяч злотых. Як і трэба было чакаць, шмат грамадзянскіх ініцыятыў аспрэчылі законапраект. Таксама вельмі пратэстуюць футбольныя фанаты. Новы закон пагражае штрафам да 10 тысяч злотых удзельнікам несанкцыянаваных маніфестацый, да якіх можна лёгка аднесці традыцыйныя маршы фанатаў пасля або да пачатку якога-небудзь матчу.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. ТРЫУМФ КАЗАХСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У Расіі наглядаецца рост інтарэсу да казахскай літаратуры, а дакладней, толькі да аднаго казахскага пісьменніка — Абая. Таго самага класіка казахскай літаратуры, помнік якому стаіць у Маскве. Менавіта каля помніка на пачатку лета антыпуцінская апазіцыя разбіла палатачны лагер пратэсту, сімвалам якога нечакана і стаў той самы Абай. Хаця, магчыма, гэта заканамернасць. Пры жыцці Абай быў працаўнікам расійскай імперскай адміністрацыі і напісаў шмат апазіцыйных вершаў. Так ці інакш, зараз на творчасць Абая шалёны запыт, і кніжныя выдаўцы вырашылі скарыстацца гэтым. У выдавецтве «Альпина нон-фикшн» аператыўна выйшлі выбраныя творы пісьменніка. Агульны наклад — 3 тысячы асобнікаў, з якіх першую партыю, 300 асобнікаў, раскупілі ў першыя тры дні продажу. Дарэчы, некаторыя філосафы бачаць у тым, што сімвалам расійскага бунту стаў казахскі паэт, нейкую метафізіку. «У гэтым (пратэстах супраць ВВП) была еўрапейская грамадзянская пазіцыя, але і відавочная азіяцкая адчайная бадзёрасць», — гаворыцца ў анатацыі да кнігі Абая.

**Паводле казахскай прэсы**

▸ **ВЫБАРЫ**

# ПЕРАЕМНІК САРКАЗІ

**Алег НОВІКАЎ**

**Ці паўплывае ператрус у доме Нікаля Сарказі на выбар яго пераемніка на пасаду лідара партыі «Саюз за народны рух» (UMP)?**


Жан-Франсуа Капэ

Французская паліцыя правяла ператрус у апартаментах і офісе Нікаля Сарказі, які падазраецца ў атрыманні незаконнага фінансавання для сваёй палітычнай кампаніі. Следства павінна высветліць, ці сапраўды супрацоўнікі Лілян Бетанкур, уладальніцы касметычнага прадпрыемства-гіганта «L'Oreal», перадавалі супрацоўнікам Сарказі канверты з грашыма для фінансавання яго кампаніі ў 2007 годзе. Сам экс-прэзідэнт Францыі, які, нагадаем, прайграў падчас майскіх выбараў, кажа, што ўсё гэта лухта.

Лухта ці не, аднак афера з-за свайго скандальнага прысмаку, безумоўна, адлюструецца на выбарах новага старшыні «Саюза за народны рух». Галоўнымі кандыдатамі на гэту пасаду напярэдадні ператрусу былі экс-прэм'ер Франсуа Філон, партыйны патрон Жан-Франсуа Капэ і былы міністр замежных спраў Ален Жупэ.

Стартам для пачатку спаборніцтваў за партыйнае лідарства стала паведамленне на акаўнце Філона ў Twitter у мінулую суботу. «Мая задача заключаецца ў тым, каб аб'яднаць пад адным дахам усю сям'ю правых цэнтрыстаў», — напісаў Франсуа. Усе зразумелі гэта як заяўку на пасаду. Тым больш, што на наступны дзень шэраг вядомых правых палітыкаў пачалі хваліць былога прэм'ера, называючы яго «сапраўдным дзяржаўным мужам», «інкарнацыяй сучаснага сацыяльнага галізму», «лепшай кандыдатурай ад правых на прэзідэнцкіх выбарах 2017 года» і г.д.

Выбары лідара абяцаюць не саступіць па напалу выбарам прэзідэнта Францыі. Палітычныя назіральнікі параўноўваюць іх з працэсамі ў партыі галістаў у 1981 годзе — пасля таго, як сацыялісты пад кіраўніцтвам Мітэрана прыйшлі да ўлады. Тагачасныя выбары і дэбаты былі часам ідэйнага і тэарэтычнага абнаўлення галісцкага праекту.

Цяперашняя сітуацыя таксама патрабуе новых ідэй. Справа ў тым, што экс-старшыня Нікаля Сарказі праводзіў вялікі эксперымент — спрабаваў узбагаціць ідэалогію галізму прарадыкальнымі лозунгамі, якія ён пазычыў у «Нацыянальнага фронту». Дарадчыкі прэзідэнта спрабавалі растлумачыць гэта неабходнасцю перафарматаваць правы рух. «Правa павінна быць вынайдзена зноў», — казаў дарадчык Сарказі Патрык Бусон.

Здаецца, мадэль ад Нікаля пацярпела фіяска. Спроба Сарказі раскручваць антыэміграцкія, узятыя ў лізінг у партыі Ле Пена, лозунгі, не пайшла на карысць апошняму. Затое «Нацыянальны фронт» пазбавіўся рэнаме партыі маргіналаў. На апошніх выбарах традыцыйны электарат «Саюза за народны рух» шмат дзе галасаваў за кандыдатаў-лепэністаў.

Нягледзячы на ўсё згаданае ў UMP хапае жадаючых працягваць лінію Сарказі. Гэты комплексны феномен таксама звязаны з вайной партыйных кланаў, асабістымі адносінамі, ідэйнымі разборкамі: Філон называе свою тэндэнцыю «сацыяльны галізм», у той час як сарказісты робяць стаўку на ліберальныя эканамічныя тэорыі.

Кандыдатам на пасаду старшыні ад гэтай фракцыі з'яўляецца Жан-Франсуа Капэ, генеральны сакратар UMP. Капэ не кажа наўпрост пра тое, што партыі трэба арэндаваць у «Нацыянальнага фронту» антыэміграцкія лозунгі. Ён прапануе пачаць дэбаты пра каштоўнасці французскай правай. Ва ўнісон з сарказістамі, ён кажа, што правая павінна быць сучаснай і пазбаўленай комплексаў. Як такая ўстаноўка будзе выглядаць на практыцы, ніхто не разумее. Пакуль заклік адмаўляцца ад комплексаў выявіўся ў тым, што «Саюз за народны рух» напярэдадні другога туру чэрвеньскіх выбараў у парламент прыняў так званую тактыку «ні-ні» — адмовіўся ад блоку з сацыялістамі на тых акругах, дзе пераможцам мог стаць кандыдат ад «Нацыянальнага фронту». Раней галісты і сацыялісты фармавалі адзіны т.зв. Рэспубліканскі блок. Мэтай якога было не прапусціць у заканадаўчыя органы правых радыкалаў.

Сапраўды, кажа пра тое, што лепш за ўсё цяпер не сварыцца, а аб'яднаць усю апазіцыю і рыхтавацца да мясцовых выбараў 2014 года. А дэбаты пра канцэптуальныя тэмы, на яго думку, можна адкласці да пачатку прэзідэнцкай кампаніі 2017 года.

Цяперашні скандал вакол Сарказі можа моцна паўплываць на ход і вынік барацьбы за пасаду лідара UMP. З аднаго боку, змаганне дыскрэдытуе фракцыю Капэ, якога таксама могуць выклікаць у пракуратуру. З іншага — уздымае шансы Жупэ, які можа стаць новым полюсам аб'яднання «антыфіланістаў». Праўда, тут ёсць свае праблемы. У партыі Жупэ лічыцца сябрам фракцыі Шырака, сімпатызанты якога не могуць прабачыць Сарказі тое, што ён даў згоду на судовы працэс над былым прэзідэнтам, якога таксама абвінавачваюць у карупцыі.

Пра тое, хто пераможа ў барацьбе за пасаду партыйнага кіраўніка, мы даведаемся ў лістападзе. Менавіта тады UMP павінен абраць новага старшыню.

Між тым, не выключаюць яшчэ аднаго магчымага незвычайнага зігзагу палітычнага працэсу — вяртання ў палітыку самога Сарказі. Прынамсі, раней ён абяцаў так і зрабіць. Дарэчы, шмат хто адзначаў, што Сарказі ў апошнія гады намагаецца пазбавіцца яркіх асобаў, кшталту

**Цяперашні скандал вакол Сарказі можа моцна паўплываць на ход і вынік барацьбы за пасаду лідара UMP. З аднаго боку, змаганне дыскрэдытуе фракцыю Капэ, якога таксама могуць выклікаць у пракуратуру. З іншага — уздымае шансы Жупэ**

Трэці жадаючы ўзначаліць галісцкі рух — легендарны Ален Жупэ, былы прэм'ер-міністр пры прэзідэнцтве Шырака, які быў вымушаны пайсці ў адстаўку з-за грандыёзных пратэстаў прафсаюзаў у 1995 годзе. Жупэ, аднак, перажыў трагедыю. Пасля ён быў адным з бацькоў-заснавальнікаў UMP, мэрам Бардо. У часы Сарказі Жупэ адказваў за міжнародную палітыку і лічыцца адным з канструктараў пераможнай вайны над Кадафі.

Галоўны лозунг Жупэ, з якім ён ідзе на выбары, — пазбегнуць вайны кланаў, якая можа правесці да расколу партыі. Сам Жупэ,

таго ж Філона, каб застацца адзінай харызматычнай фігурай у партыі і не пакінуць «Саюзу за народны рух» іншага выбару, як застацца яго лідарам.

Варта таксама нагадаць, што адначасова з яго выездам з Елісейскага палацу быў створаны фонд «Сябры Сарказі» і асацыяцыя, якая таксама называецца «Сябры Сарказі». Дарэчы, сяброўскі штогадовы ўнёсак складае 7500 еўра. Як піша прэса, фактычна, гэта не што іншае, як плацдарм для вяртання Нікаля ў палітычнае жыццё. Пытанне, калі гэтыя механізм пачне працаваць...

ЦІКАВА

# АЛІМПІЯДА І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні Алімпіяды ў Лондане нацыяналісты Шатландыі патрабуюць стварэння шатландскай алімпійскай зборнай.**




Як вядома, на першых этапах свайго існавання алімпійскі рух быў мала падобны на цяперашні. Напрыклад, у афіцыйнай праграме спаборніцтваў быў незвычайны від спорту — лазанне па канатах на хуткасць. Яшчэ адна розніца паміж тымі і цяперашнімі алімпіядамі — склад камандаў-удзельніц спаборніцтваў. Так, на першых алімпіядах Шатландыя, якая на той час ужо не была незалежнай дзяржавай, мела права выстаўляць сваю зборную па некаторых відах спорту.

Напрыклад, у 1908 годзе падчас Алімпіяды ў Лондане шатландскія футбалісты і хакеісты гулялі асобна ад англічан і каманды Вялікабрытаніі. Пры тым, што ў гэтым жа годзе быў сфармаваны алімпійскі камітэт Вялікабрытаніі. Нягледзячы на гэта, у 1912 годзе на Алімпіядзе ў Стакгольме прысутнічала шатландская веласіпедная зборная, якая нават атрымала бронзу. Пасля Стакгольму шатландскія атлеты заўсёды былі толькі ў складзе алімпійскай зборнай Вялікабрытаніі.

Адзінае, што засталося ад тых часоў, — футбольная каманда: шатландская федэрацыя па футболу мае асобнае сяброўства ў ФІФА.

З часоў Алімпіяды 1908-га прайшло больш за сто гадоў, аднак шатландскія нацыяналісты не забыліся пра той славуты момант у гісторыі спорту і ганарацца ім. Справа не толькі ў тым, што шатландцы паказвалі дастаткова добры ўзровень — акрамя бронзы веласіпедыстаў, добра згулялі і футбалісты. У 1908 годзе яны падзялілі з іншай камандай трэцяе месца. З таго часу мара выставіць на Алімпіяду сваю каманду не пакідае незалежнікаў.

Таму, пачынаючы з 2005 года, калі да ўлады ў рэгіёне прыйшла Партыя нацыяналістаў Шатландыі (SNP), тут вядзецца сталая кампанія за шатландскае прадстаўніцтва на Алімпійскіх гульнях. А паколькі ў гэтым годзе Алімпіяда адбываецца ў Лондане, кампанія набыла новае дыханне. Яшчэ адзін немалаважны фактар — прызначаны на восень наступнага года рэферэндум аб пачатку выхаду Шатландыі са складу Аб'яднанага Каралеўства.

Нядзіўна, што нацыяналісты, якія кантралююць урад, спрабуюць выкарыстаць гульні ў якасці прапаганды суверэнітэту. Алекс Салманд, лідар нацыяналістаў і прэм'ер ураду шатландскай аўтаноміі, арганізаваў сапраўдны дэбош падчас знаходжання факела з алімпійскім агнём у Шатландыі. Тут факел быў амаль тыдзень. Па падліках, каля 400 тысяч чалавек павінны назіраць за ходам алімпійскай эстафеты. І напярэдадні старту эстафеты кіраўнік шатландскай аўтаноміі заклікаў суайчыннікаў сустракаць алімпійскі агонь не брытанскім сцягам, а шатландскім. Паводле рашэння шатландскага кабінета, было выдзелена недзе паўтары тысячы бюджэтных фунтаў на тое, каб наняць спецыяльных людзей для раздачы сцягоў мінакам і малявання ім на скуры колераў шатландскага сцяга.

На гэтым Салманд не супакоіўся. Ён патрабаваў, каб у час Алімпіяды над стадыёнам Hampden у Эдынбургу, дзе пройдзе восем матчаў Алімпіяды, развіваўся таксам шатландскі сцяг. Спачатку Лондан адмовіў Салманду, аднак пасля пятыцыйнай кампаніі быў вымушаны саступіць.

**У 1912 годзе на Алімпіядзе ў Стакгольме прысутнічала шатландская веласіпедная зборная, якая нават атрымала бронзу. Пасля Стакгольму шатландскія атлеты заўсёды былі толькі ў складзе алімпійскай зборнай Вялікабрытаніі**

Яшчэ больш радыкальнай аказалася кампанія ў Шатландыі за асобную алімпійскую зборную па футболу. Так, асацыяцыя шатландскіх футбольных балельшчыкаў, вядомая пад назвай Tartan Army, вырашыла байкатаваць выступы алімпійскай зборнай Вялікабрытаніі. Па словах галоўнага фаната зборнай Шатландыі, вітаць зборную Вялікабрытаніі — тое ж самае, што «вітаць з'яўленне ў сябе дома чорнай чумы».

Шатландская футбольная федэрацыя (SFA) планавала напярэдадні Алімпіяды ўвогуле забараніць мясцовым футбалістам удзельнічаць у складзе зборнай Вялікабрытаніі, што падалося занадта радыкальным крокам нават Салманду. Ён заклікаў федэрацыю не спяшацца з гэтым. Функцыянеры ж SFA, у сваю чаргу, сцвярджаюць, што ўдзел у зборнай Вялікабрытаніі можа падарваць нацыянальны дух шатландскіх футбалістаў. Увогуле, па апытаннях, 60 працэнтаў шатландцаў выступаюць за сваю алімпійскую футбольную каманду.

Цікава, што кампанія ў Шатландыі мела водгук ва Уэльсе і ў самой Англіі, дзе таксама даўно існуе рух за стварэнне асобнай алімпійскай каманды, якая б выступала пад сцягам Святога Георгія (нацыянальны флаг Англіі). Ажывіліся і звычайна спакойныя уэльсцы. «Новы Час» ужо пісаў, што мясцовыя нацыяналісты патрабавалі ад Лондана рэфармаваць да старту Алімпіяды брытанскі дзяржаўны сцяг, на якім няма элементаў уэльскай сімволікі.

Цяжка сказаць, наколькі сур'ёзныя шансы ў шатландскіх нацыяналістаў займець сваю алімпійскую каманду. Аднак зразумела, што кампанія за алімпійскую зборную Шатландыі дапамагла Салманду ўзняць прывабнасць незалежніцкага праекту.

Не дарма апошнім часам англійскі палітычны істэблішмент актыўна выступае супраць сепарацыі Шатландыі. Так, 7 чэрвеня Эд Мілібэнд — лідар лейбарыстаў — патрабаваў праводзіць рэферэндум не толькі ў Шатландыі, аднак і ў Англіі. Логіка простая: англічане таксама маюць права вырашаць лёс саюзу. Заява Мілібэнда выклікала вялікі інтарэс, паколькі ніколі раней лейбарысты праблемамі англійскай нацыі не цікавіліся.

У гэтым плане, як адзначаюць каментатары, будучая лонданская Алімпіяда таксама стане бітвай за захаванне адзінства Вялікабрытаніі. Калі яе зборная здолее прыцягнуць сімпатыі шатландцаў, то шансы нацыяналістаў перамагчы на гістарычным рэферэндуме будуць не такія высокія.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ДЭВІД КЭМЕРАН



Прэм'ер Вялікабрытаніі, здаецца, мае намер выправіць гістарычную памылку, якую, на яго погляд, зрабіла краіна, калі ў 1970-я гады ўвайшла ў еўрапейскія структуры. На думку Кэмерана, цяпер самы час вярнуць усё назад, а менавіта перагледзець фармат адносін Брусэля і Лондана ў бок павялічэння аўтаноміі апошняга. Зрабіць гэта, па словах прэм'ера, можна ў межах рэферэндуму. «Для мяне Еўропа — гэта значыць рэферэндум», — напісаў Кэмеран у спецыяльным артыкуле для выдання «Sunday Telegraph». І ўдакладніў, што ў цяперашняй Еўропе яго палохае «занадта вялікая колькасць бюракратыі». Цяпер аналітычная супольнасць Альбіёну гадае, наколькі далёка ў сваіх антыеўрапейскіх забабонах пойдзе ўрад лібералаў і кансерватараў. Большасць газет лічаць, што Кэмеран папросту хоча заспакоіць фракцыю еўраскептыкаў унутры партыі торы. Іншыя кажуць, што плебісцыт па пытанню адносін Еўропы і Вялікабрытаніі сапраўды магчымы. Адзінае, у чым пагаджаюцца ўдзельнікі спрэчак, — Вялікабрытанія ў любым выпадку застанецца ў складзе Еўрасаюзу. Ставіць пытанне пра выхад краіны з Еўрасаюза Кэмеран дакладна адважыцца.

### РАБЕРТА МАРОНІ



Былы міністр унутраных спраў, сябра партыі «Ліга Поўначы», фармальна змяніў на пасадзе лідара папярэдняга старшыню Умберта Босі. Апошні, хаця стварыў і саму «Лігу Поўначы» і ўвогуле феномен руху за аўтаномію Поўначы Італіі, быў вымушаны пайсці ў адстаўку з-за карупцыйнага скандалу. Босі браў грошы з партыйнай касы, якая па закону атрымлівае іх з бюджэту, на патрэбы сям'і. Увогуле, сам Босі лічыць, што яго падставілі рымскія праціўнікі вольнасці Поўначы. Як бы там ні было, удзельнікі пазатэрміновага кангрэсу партыі, які прайшоў пад Міланам, вырашылі, што старшынёй павінен быць Мароні. З прыходам Мароні да партыйнага штурвалу шмат хто чакае рэвізіі праграмы і іміджу «Лігі Поўначы». З новым кіраўніком яна паспрабуе стаць памяркоўнай партыяй, якая прадстаўляе інтарэсы сярэдняга класа паўночных італьянскіх правінцый. Праўда, сам новы лідар, здаецца, далёкі ад электарату. Інакш бы ён публічна не заявіў, што з-за партыйных спраў не змог паглядзець фінал турніру Еўра–2012 з удзелам зборнай Італіі. Гэта пры тым, што напярэдадні ўсе Апеніны пераживалі шалёны інтарэс да гульні італьянскай зборнай, верылі ў яе поспех.

### ЭЛІА ДЗІ РУПА



Як вядома, кабінет бельгійскага прэм'ера Эліа дзі Рупа быў сабраны ў мінулым годзе, пасля таго, як больш за год партыйныя лідары не маглі дамовіцца наконт схемы стварэння ўрада. Не дзіўна, што ўсе прагназавалі і прагназуюць Эліа хуткі крызіс яго кабінету. Фламандскія нацыяналісты нават кажуць, што гэта апошні ўрад у гісторыі адзінай Бельгіі. Аднак цяпер час падзення Эліа дзі Рупа адкладаецца. Усё дзякуючы рашэнню UNESCO прызнаць чатыры шахты з рэгіёну Валонія гістарычнай спадчынай чалавецтва. На думку UNESCO, згаданыя руднікі заслугоўваюць такой пашаны, паколькі гэтыя прадпрыемствы былі піянерамі індустрыяльнай рэвалюцыі ў Еўропе. Навіна выклікала выбух нацыянальнага гонару сярод бельгійцаў. Эліа дзі Рупа адразу павіншаваў усю краіну з такім прарывам. Увогуле, гэтыя шахты даўно не працуюць, бо нерэнтабельныя. На іх базе адкрытыя музеі. Таксама з адной з іх — шахтай Bois de Cazier — звязана адна з самых трагічных старонак у гісторыі Бельгіі. У 1956 годзе ў выніку выбуху газу тут загінула 256 шахцёраў.

ЦІКАВА

# ЯНУШ РАДЗІВІЛ: ТРАГЕДЫЯ КАНСЕРВАТАРА

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У НЧ быў апублікаваны мой артыкул «НКУС супраць Радзівілаў», прысвечаны трагічнаму лёсу апошняга ўладальніка Нясвіжскага замка, князя Леона Радзівіла. Аднак вераснёўскія падзеі 1939 года аказалі ўплыў на жыццё яшчэ аднаго прадстаўніка знакамітага беларуска-польскага шляхецкага роду, XIII алыцкага ардыната, знакамітага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча міжваеннай Польшчы, Януша Францішка Радзівіла.**


Януш Радзівіл у сойме, 1931 г.


Януш Радзівіл з генералітэтам


Прыезд Пілсудскага ў Нясвіж , 1926 г.


Януш Радзівіл у Варшаве, 1931 г.

Гэты чалавек адыграў важную ролю ў працы Рэгенцкай рады, створанай акупацыйнай нямецкай адміністрацыяй у Варшаве ў 1917 годзе. Менавіта Януш Радзівіл у 1918 годзе правёў паспяховыя перамовы з камандаваннем Першага польскага корпусу, які знаходзіўся ў Бабруйску, і дамогся таго, каб гэтая вайсковая адзінка прысягнула Рэгенцкай радзе. Падчас савецка-польскай вайны князь уступіў у Войска Польскае і ў якасці афіцэра штаба кавалерыйскай дывізіі ўдзельнічаў у абароне Варшавы ад войскаў Чырвонай Арміі.

Чарговым дыпламатычным поспехам Януша Радзівіла стала ўстанаўленне дыпламатычных адносін з Ватыканам. Па запрашэнні князя Варшаву наведаў папскі нунцый Рацці, які быў заўзятым антыкамуністам, і падтрымаў Польшчу ў вайне з савецкай Расіяй. У лютым 1925 годзе Пій XI падпісаў з Польшчай канкардат — дагавор аб прызнанні і супрацоўніцтве, тым самым выказваючы сваю падтрымку польскім уладам. У 1922 годзе Радзівіл узначаліў польскую дэлегацыю на перамовах па разбраенні ў Маскве.

З цягам часу князь Януш стаў уплывовым палітыкам. Пасля «майскага перавароту» ў 1926 годзе менавіта ён быў адным з ініцыятараў правядзення так званага «Нясвіжскага з'езду». Юзэфу Пілсудскаму, які вярнуў сабе ўладу, была неабходна падтрымка багатай беларускай шляхты. За гэтым таямнічым спатканнем сачыла ўся Еўропа. Зрэшты, замежная прэса з-за адсутнасці дакладнай інфармацыі пусціла слых, што ў Нясвіжы польская вярхушка абмяркоўвала магчымасць вяртання манархіі.

Дзякуючы развітаму ўменню ісці на кампраміс у міжваенным дваццацігоддзі, Януш Радзівіл здолеў дасягнуць значных поспехаў на палітычнай ніве, стаўшы спачатку дэпутатам сейма, а затым і сенатарам. Да канца 1930-х гадоў князь быў уплывовай фігурай не толькі ва ўнутрыпалітычным жыцці Польшчы. Януш Радзівіл валодаў англійскай, нямецкай, французскай мовамі, меў шырокія сувязі ў кіруючых колах многіх краін. На думку сучаснікаў, гэты арыстакрат лёгка мог вырашыць шматлікія знешнепалітычныя праблемы Польшчы. Вядомы тагачасны польскі публіцыст Юзэф Мацкевіч адзначаў, што «князь Януш лічыўся сярод эліты польскага грамадства лепшым кандыдатам на пасаду міністра замежных спраў. Калі б прэзідэнт Польшчы Масціцкі прызначыў яго міністрам яшчэ ў сакавіку 1939-га, то Польшча першай не ўступіла б у вайну, а Англія і Амерыка не прадалі б нас за бясцэнак».

Пасля нападу нацысцкай Германіі на Польшчу князь Януш пераехаў у свой замак у Алыцы. 7 верасня 1939 года туды прыехаў прэзідэнт Польшчы, а праз два дні — міністр замежных спраў Юзэф Бек і вярхоўны галоўнакамандуючы, маршал Эдвард Рыдз-Сміглы. У палацы прайшла важная нарада, на якой абмяркоўвалі эвакуацыю дзяржаўнага апарату з Варшавы, стварэнне абарончых рубяжоў на Вісле і сакрэтную місію, звязаную з эвакуацыяй залатога запасу Польшчы.

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Праз некалькі дзён у двор маёнтка Радзівілаў заехалі ваенныя машыны. Князь Януш і яго сын Эдмунд былі арыштаваныя НКУС. За гэтую аперацыю лейтэнанта дзяржбяспекі Івана Мурашкіна ўзнагародзілі ордэнам «Знак Пашаны». Пасля «няўдалага» «народнага суда», на якім вясковыя жыхары прагаласавалі супраць павешання Радзівілаў, супрацоўнікі НКУС вывезлі князёў у Роўна. Эдмунд хутка аказаўся ў лагеры для польскіх ваеннапалонных у Казельску. А яго бацька праз Кіеў быў дастаўлены ў Маскву, на Лубянку. Там Радзівіла кожны дзень дапытвалі, цікавячыся ацэнкай эканамічнага патэнцыялу Польшчы, які апынуўся ў руках нацыстаў. Асаблівая ўвага надавалася асобе аднаго з вышэйшых кіраўнікоў Трэцяга Рэйха — Германа Герынга. Справа ў тым, што ў верасні 1935 года разам з польскім амбасадарам Ліпскім і генералам Войска Польскага Фабрыцам Януш Радзівіл наведаў валоданні «нацы № 2» ва Усходняй Прусіі. Афіцыйна, каб папаляваць. На самай справе, у час той сустрэчы абмяркоўваліся пытанні знешняй палітыкі.

Праз два тыдні знаходжання на Лубянцы змучанага князя абудзілі сярод ночы і прывялі ў камфартабельны кабінет, у якім сядзеў чалавек у пенснэ. У пакоі таксама знаходзіліся начальнік турмы Міронаў і яго намеснік. «Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя», — прадставіўся чалавек, які сядзеў за масіўным дубовым сталом. «Я прачытаў вашы паказанні, князь. Нічога не маю супраць вас. Думаю, што няма падстаў трымаць пана тут. Якія ў вас планы на будучыню?» — пачаў размову наркам. Радзівіл спытаў, што з яго сям'ёй, на што атрымаў адказ, што родныя князя ў бяспецы. Сенатар сказаў, што хацеў бы вярнуцца на радзіму, у Польшчу, на што Берыя падкрэсліў, што Польшча цяпер акупавана Германіяй. Але Януш Радзівіл стаяў на сваім. І тады Берыя павярнуўся да Міронава і вымавіў: «Такія людзі, як Радзівілы, нам вельмі патрэбны. Мы б знайшлі для іх добрую працу». Праз некалькі дзён адбылася яшчэ адна сустрэча Радзівіла з Берыям. Падчас яе Берыя запытаў, ці ведае Радзівіл Яўстафія Сапегу, дадаўшы, што ён таксама знаходзіцца ў руках НКУС. «Мы арыштавалі яго ў Гродна», — падкрэсліў Берыя. Князь Януш, безумоўна, ведаў былога міністра замежных спраў Польшчы і дэпутата сейма, і не доўга думаючы спытаў, ці адпусцяць яго разам з ім. «Мяркую, мы яго вызвалім пазней. Няхай яшчэ пасядзіць», — адказаў наркам. Пад канец размовы Берыя сказаў, што савецкі бок хацеў бы атрымліваць ад князя агентурную інфармацыю з акупаванай Польшчы. Пры гэтым асабліва падкрэсліўшы, што гэта не загад, а просьба, і князь вольны адмовіцца.

Януша Радзівіла і яго родных вызвалілі з савецкай турмы пасля ўмяшання італьянскага каралеўскага двара, з якім Радзівілы знаходзіліся ў сваяцтве. Неўзабаве на чыгуначным вакзале ў Брэсце Радзівіл сустрэўся са сваёй сям'ёй. Палкоўнік дзяржбяспекі Міронаў, які праводзіў князя, на развітанне сказаў: «Ну што ж, князь, да пабачэння». На што Радзівіл, усміхнуўшыся, вымавіў: «Бывайце». Начальнік Лубянскай турмы, адышоўшы ад цягніка, пра сябе сказаў: «Хто ведае, хто ведае». І гэтыя словы былі прароцкімі. Аднак, пра ўсё па чарзе.

Апынуўшыся ў Генерал-губернатарстве (так называлася частка Польшчы, акупаваная Трэцім Рэйхам), Януш Радзівіл пасяліўся ў замку ў Небарове. Ён адразу адмовіўся ад нямецкіх прапаноў узначаліць марыянеткавы польскі ўрад. Адначасова князь уступіў у сувязь з прадстаўнікамі польскага падполля.

Пачынаючы з 1940-га ад сваіх рэзідэнтаў у сталіцы нацысцкай Германіі Масква атрымала звесткі аб тым, што Януш Радзівіл некалькі разоў бываў у Берліне і сустракаўся з вышэйшым нацысцкім кіраўніцтвам, у тым ліку з Германам Герынгам. У акупаванай Варшаве Януш Радзівіл удзельнічаў у працы польскіх грамадскіх арганізацый. Падчас паўстання 1944-га князь быў арыштаваны нацыстамі і змешчаны ў турму ў Берліне. Аднак прадстаўнік знакамітага шляхецкага роду выжыў і вярнуўся дадому, у замак у Небарове.

Начальнік турмы на Лубянцы меў рацыю, калі ў 1939-м казаў князю: «Да пабачэння». У студзені 1945 года Януш Радзівіл разам з іншымі прадстаўнікамі вядомых польскіх шляхецкіх родаў быў арыштаваны НКУС. Спачатку Радзівілаў перавезлі ў Маскву, а пазней — у Краснагорск. Шляхту трымалі ў спецлагеры №47 для нямецкіх ваеннапалонных.

У 1947 годзе памерла жонка князя Ганна, а неўзабаве змучанага Радзівіла адпусцілі ў Варшаву. Праз некалькі гадоў князь звярнуўся да савецкіх улад з просьбай дазволіць яму эксгумаваць і перавезці парэшткі каханай жонкі ў Польшчу. Але... магілу княгіні не знайшлі. Наступныя 20 гадоў князь пражыў у сціплай двухпакаёвай кватэры ў польскай сталіцы. Памёр Януш Радзівіл у 1967-м.

...Малодшы сын Януша Радзівіла Станіслаў ажаніўся з Каралінай Лі Бууўе, роднай сястрой жонкі прэзідэнта ЗША Жаклін Кенэдзі. У 1967 годзе былая першая лэдзі ЗША прыляцела ў Варшаву на пахаванне князя Януша Радзівіла.

Адпускаючы князя ў 1947-м, Лаўрэнцій Берыя не пакідаў надзею выкарыстаць яго ў сваіх шпіёнскіх гульнях. Па некаторых дадзеных, у 1953 годзе «чалавек у пенснэ» хацеў прадаць Усходнюю Нямеччыну Захаду за 10 мільярдаў долараў, а пасрэднікам у гэтай справе павінен быў стаць князь Януш Радзівіл.

РОЗДУМ

# ЭПОХА «ЧОРНЫХ СПІСАЎ»: СУПРАЦІЎ НАРАСТАЕ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Парадокс сённяшняй сітуацыі ў тым, што для дзяржаўнага бюракратычнага апарата мова тытульнай нацыі ў нашай краіне па розных прычынах стала небяспечнай, бо цвёрда атаясамліваецца з апазіцыяй. Для іх умацаванне пазіцый роднага слова сведчыць пра нарастанне пратэстных настрояў у грамадстве. Гэта палохае ўлады, і таму беларуская мова застаецца ў падчарках, а яе носьбіты аб’яўляюцца «свядомымі», «адмарозкамі», «бэнээфаўцамі».**



Рок-бард Андрэй Плясанаў

Фота аўтара



І яго слухачы на хатніку

Адным з вынікаў гэтых панічных адносін да роднага слова стала стварэнне штучнага дзяржаўнага прадукту пад умоўнай назвай «сучасная беларуская культура на мове суседняй дзяржавы». На гэтую «ідэю» працуюць шматлікія моўныя калабаранты, ад вядучых FM-эфіру да «зорак беларускай эстрады», якія імітуюць творчасць, мэта якой — кансервацыя каланіяльнага стану беларускай нацыі на як мага больш працяглы перыяд.

І калі нейкая сацыяльная ці культурная з’ява пярэчыць «новай палітыцы» ў галіне мастацтва, то вакол яе ствараюцца ўмовы для шчыльнай ізаляцыі, лакалізацыі і самазнішчэння. Сумнавядомыя «чорныя спісы» беларускіх рок-выканаўцаў — частка спроб бюракратычнага апарата паставіць пад кантроль распаўсюджанне альтэрнатыўнага культурніцкага прадукту, які з’яўляецца сведчаннем развіцця сучаснай беларускай культуры ва ўмовах татальнага нацыянальнага прэсінгу. Чаму ж тады нацыянальны па духу і зместу прадукт, напрыклад музычны, і ў такіх умовах усё ж знаходзіць свайго спажыўца, чаму моладзь усё часцей аддае перавагу мала прадстаўленым у дзяржаўных СМІ творам гуртоў і выканаўцам, якія не грэбуюць родным словам?

Тут можна назваць і творчую нежыццяздольнасць дзяржаўнага культурніцкага істэблішменту, і распаўсюджанне прынцыпаў D.I.Y.-культуры, і магутны ўплыў інтэрнэта. Немалую рою ў гэтым працэсе адыгрываюць новыя формы існавання нацыянальнай культуры, якія становяцца яркай ілюстрацыяй эпохі «чорных спісаў».

## Усё пачыналася з «Басовішча»…

На самым пачатку канфлікту нацыянальнай рок-плыні і тутэйшай русіфікаванай бюракратыі фестывальны рух на тэрыторыі нашай краіны падпадаў пад татальны кантроль і фінансавы ціск мясцовых уладаў, якія не жадалі праводзіць на сваёй тэрыторыі такія неспакойныя мерапрыемствы. (Успомнім лёс полацкага фэсту «Рок-Кола»). Таму стылістычная панарама Беларусі абмежавалася фэстамі фальклорнай і дзяржаўна-папсовай накіраванасці. У адказ на гэтую тэндэнцыю айчынныя музыканты скарысталіся магчымасцю арганізацыі на тэрыторыі Польшчы адметнага рок-фестывалю. Гэтая ідэя належала беластоцкім беларусам, і іх аргументацыя палягала ў тым, што забараніць такі фэст у беларускіх уладаў магчымасці не будзе, да таго ж, творчасць беларускіх рок-гуртоў стане больш вядомай за межамі краіны. Арганізацыйны прынцып «Басовішча» быў скарыстаны і для правядзення шэрагу іншых open air’аў у краінах-суседках (Украіна, Літва, Расія, а таксама на суверэннай тэрыторыі ЗША — у амбасадзе гэтай краіны ў Мінску), якія зрабілі беларускую рок-музыку больш вядомай і запатрабаванай тут і за межамі Беларусі. На жаль, пры змене палітычнага курсу ў той ці іншай краіне (акрамя Польшчы і «Басовішча»), дзе адбывалася музычная дзея, некаторыя з гэтых фэстаў мелі арганізацыйныя праблемы ці ўвогуле адмяняліся. Сёння ўсё больш актуальным з’яўляецца ўдзел айчынных выканаўцаў у міжнародных еўрапейскіх фэстах, а таксама ў тых краінах, дзе пражывае дастаткова вялікая беларуская дыяспара. Хоць вага і значэнне для беларускамоўнай рок-музыкі пачынальнікаў «трансгранічнага музычнага абмену» — фэсту «Басовішча» — у гэтых умовах толькі ўзмацняцца. З гэтай прычыны застаецца небяспека спроб спецслужбаў разбурыць гэты сімвал незалежнай сучаснай беларускай культуры знутры.



Сімвал супраціву «чорным спісам»

## Пампуй, але падтрымай любімага выканаўцу

Першае, што было зроблена для напаўнення «чорных спісаў» рэальнымі зместам, — уведзена негалосная забарона выступленняў і трансляцыі канцэртаў беларускамоўных выканаўцаў. У такіх умовах «сусветнае павуцінне» стала важным сродкам кантакту з патэнцыяльнымі слухачамі. Многія з выканаўцаў, асабліва андэграўнднага накірунку, імкнуцца размясціць свае сінглы і альбомы ў выглядзе інтэрнэт-рэлізаў, якія папярэднічаюць выхаду іх твораў на матэрыяльных носьбітах. Існуюць парталы, на якіх можна праслухоўваць кампазіцыі маладых гуртоў і аднachасова пералічыць грошы на падтрымку таго ці іншага ўпадабанага гурта. Акрамя гэтага, спецыялізаваныя сервісы прапануюць музыкантам паслугі па размяшчэнні іх твораў у FM-эфіры па ўсёй Еўропе, а таксама для стварэння саўнд-трэкаў да кінастужак.

Гэтымі магчымасцямі карыстаюцца і беларускія выканаўцы, асабліва маладыя. Для іх інтэрнэт — магчымасць пазнаёміць патэнцыйных слухачоў са сваёй музыкай, заявіць пра свае творчыя планы і дасягненні. Але выкладаннем новых сінглаў у інтэрнэце выкарыстанне яго магчымасцей не абмяжоўваецца. З дапамогай «сусветнага павуціння» праводзяцца кампаніі з патрабаваннямі адмены «чорных спісаў», замаўляюцца на FM-радыёстанцыях беларускамоўныя кампазіцыі, а ў сацыяльных сетках ствараюцца суполкі аматараў беларускамоўнай музыкі ўсіх напрамкаў. Калі існуе неабходнасць аператыўна давесці нейкую рэкламную інфармацыю пра запланаваны канцэрт, то з дапамогай інтэграцыйных праграм навіна распаўсюджваецца па ўсіх каналах сацыяльных сетак адразу. На чарзе — анлайн-канцэрты беларускіх рок-гуртоў, падчас якіх слухачы маюць магчымасць весці дыялог з іх удзельнікамі, атрымаць адказы на хвалюючыя пытанні. Для маладых выканаўцаў віртуальныя канцэрты — яшчэ і метадычны дапаможнік па вырашэнню арганізацыйных і тэхнічных пытаннях рэальнай канцэртнай дзейнасці.

Віртуалізацыя айчыннага рок-руху, безумоўна, не можа замяніць непасрэднага кантакту музыкантаў са сваімі прыхільнікамі. І таму ўсе пералічаныя формы прасоўвання айчыннага музычнага прадукту маюць за мэту надаць энергіі для далейшага штуршка «жывых» канцэртных акцый.

## Канцэрт адмяніць нельга праводзіць

Галоўная мэта «чорных спісаў» — пазбавіць магчымасці беларускамоўных выканаўцаў непасрэднага кантакту з аўдыторыяй, а ў перспектыве звесці яго ўплыў да нуля. Тое, што бюракратыя пойдзе на любыя крокі, каб ажыццявіць задуманае, сведчыць нядаўні выпадак з бардамі Ігарам Сімбіровым і Змітром Бартосікам. Выканаўцы былі арыштаваныя пад Мінскам пасля канцэрта на адкрытым паветры. І нічога дзіўнага ў гэтым факце няма: для ўсяго беларускага па духу і кантактаў са слухачамі яго прадстаўнікоў даўно ўведзены «чырвоны колер небяспекі».

У гэтай сітуацыі патрабуецца змена тактыкі канцэртнай дзейнасці. Сёння акцэнты пераносяцца паводле прынцыпу непадцэнзурнай D.I.Y.-культуры: «Мысліць глабальна, дзейнічаць лакальна». Гэта значыць, стаўка робіцца не на буйныя канцэртныя пляцоўкі (хоць магчымасць выступіць на іх не адмятаецца), на правядзенне «хатніх» канцэртаў, як у сталіцы, так і ў правінцыі. Такія «хатнікі» праводзяцца там, дзе зручна для слухачоў, дзе зведзены да мінімуму магчымасці для перашкод з боку пільных змагароў з «национализмом». Маюцца на ўвазе офісы буйных беларускіх партый, рухаў і грамадскіх аб’яднанняў, літаратурныя музеі, прыватныя кватэры і лецішчы беларускіх музыкантаў. Так, разам з вырошчваннем на градках «і хрэна, і капусткі, і нават бубкаў на кампот» (© Н.Гілевіч), на лецішчах абсталёўваюцца студыі гуказапісу, а таксама камерныя залы для невялікіх «электрычных» і акустычных канцэртаў. Гледачоў на такіх імпрэзах прысутнічае няшмат, але праводзіць музычныя сустрэчы можна даволі часта. Да таго ж, непасрэдны кантакт слухачоў і выканаўцаў дазваляе праводзіць такія «хатнікі» з неверагодным вынікам: тыя, хто выпадкова ці свядома трапіў на такі канцэрт, ужо ніколі не забудзецца пра яго пазітыўную атмасферу павагі да роднага слова, дух узаемаразумення, якія і сталі візітоўкай айчыннага беларускамоўнага музычнага руху.

Традыцыя «хатнікаў» у Беларусі мае сваё развіццё ў выглядзе канцэртаў на хутарах, якія прадстаўляюцца ці арандуюцца іх уладальнікамі для музычных сустрэч далёка ад вачэй ідэалагічнай вертыкалі. Гэтая форма спалучае магчымасць паслухаць любімую музыку, а таксама адпачынак і пікнік на свежым паветры. Такіх «хутарскіх» канцэртаў і фэстаў праводзіцца яшчэ не так шмат, але гэта канцэртная форма даволі прыцягальная для слухачоў і таму мае добрую перспектыву. На новыя рэаліі канцэртнай дзейнасці ў Беларусі станоўча рэагуюць і самі музыканты, якія больш ахвотна адгукваюцца на запрашэнні выступіць на непадцэнзурных канцэртах, смела «ідуць у людзі». Дзеля большай мабільнасці і эфектыўнасці многія гурты (нават панкаўскага і metal-накірунку) рыхтуюць свае праграмы ў фармаце unplugged — «ужывую», з выкарыстаннем акустычных інструментаў. Для слухачоў атрымоўваецца дадатковы стымул наведаць такі канцэрт, каб паслухаць сваіх куміраў у нязвычным гучанні, з незвычайнымі аранжыроўкамі...

«Чорныя спісы» беларускіх выканаўцаў — гэта забыты ў Еўропе феномен культурнага жыцця, які ў нас зрабіў актуальнымі ранейшыя і новыя формы супраціву бюракратычнаму ўмяшанню ў творчыя працэсы. Іх выкарыстанне цяпер дапамагае айчынным выканаўцам ставіць коску ў сказе, што вынесены ў падзагаловак майго эсэ, там, дзе гэтага патрабуе ўдумлівы беларускі слухач.

ПРАЕКТ

# МАЯ ВЫШЫВАНКА: УЛАДЗІМІР СОДАЛЬ

**Мусіць, самы час распавесці і мне пра сваю вышыванку. Упершыню я апрануў яе ў 1961 годзе, паўстагоддзя таму. Гэта быў падарунак мне на вяселле.**

Пазней я даведаўся, якой ахвярай дасталася мне тая вышываная кашуля. Мая стрыечная сястра Люся вучылася тады ў Гомельскім універсітэце. З грашыма было скупа, ведама, студэнтка. І яна мусіла здаваць кроў, каб зрабіць мне такі каштоўны і незабыўны дарунак.

Досыць часта я апранаў прыгожую вышыванку, асабліва ўлетку. Яна і напраўду, як казаў Сяргей Панізнік, халадзіць цела. Другое, вышыванка — гэта заўсёды настрой, свята, урачыстасць, вылучае годна цябе з шэрай масы. У вышыванцы — хочаш не хочаш, а цябе прызнаюць за беларуса. Надаралася і такое, калі некаторыя спрабавалі неяк азмрочыць маю святочнасць. Памятаю, як адзін дзеяч, убачыўшы мяне сярод моладзі ў Траецкім прадмесці ў вышыванцы, неяк незычліва і знішчальна выціснуў: «Этнаграфічны беларус!» — і гэтулькі было грэблівасці ў яго ным тоне. Хоць я не забыўся да гэтага часу на той непрыемны эпізод, але ад сваіх вышыванак не адмовіўся. У мяне іх зараз аж тры. Я іх заўсёды апранаю з нагоды самых урачыстых момантаў.



Уладзімір Содаль і Лілета Юстыновіч. Сяброўская сустрэча ў Вязынцы

У падараванай мне стрыечнай сястрой вышыванцы браў шлюб мой сын — Марат, у ёй распісваўся ў ЗАГСе і згуляў вяселле. Настальгічны дух вышыванкі з малых гадоў перадаўся і майму ўнучку Сяржуку Чылікіну-Садэльскаму. Шэраг яговых фотаздымкаў даносіць да нас гэтыя моманты. Пры любой урачыстасці, пры любой святочнай нагодзе ён сам, без усялякай нагадкі кагось са старэйшых, апранае сваю вышыванку. Вось наш трынаццацігадовы Сяржук пры сваіх імянінных свечках. А вось на гэтым здымачку ён у вышыванчацы на сустрэчы са студэнтамі Мінскага педагагічнага дзяржаўнага ўніверсітэта ў кабінеце беларускай мовы. Аднойчы Сяржук гэтак распавёў:

«Дарагую вышываначку падаравалі мне бабулька Клара з дзядулем Уладзем. У ёй я ездзіў на Кіпр. Хоць там спякотна і ўсе ходзяць у адных шортах, я не адзін раз апранаў беларускую вышыванку. Няхай ведаюць, што я з Беларусі, што я беларус.

Не адзін раз каля помніку Янку Купалу я ў вышыванцы расказваў свае вершы. Мяне ў ёй намаляваў мастак Алесь Цыркуноў. Часам у ёй я і пішу. У вышыванцы пачуваюся радасным, узнёслым, натхнёным. Шчаслівым. Іншым разам хаджу ў ёй у школу.

Вышыванкі — нацыянальная беларуская вопратка. Даўней кожны беларус меў сваю вышываначку. Яе апраналі на святы. Вышыўка на кашулі — не толькі ўкраса. Гэта яшчэ і абярэг. На грудзях маёй кашулі дзве беечкі з арнаментам. Яны аберагаюць маю душу, даюць натхненне, а воку — асалоду і радасць».

Сяржук пісаў і распавядаў пра сваю вышываначку ў 2002 годзе, што надрукавана ў кніжцы «Святло маёй крынічкі». З тае пары ён пасталеў, стаўся студэнтам. Прынамсі, гэтымі днямі да сваіх ранейшых разваг ён дадаў:

«У любога на свеце народа ёсць адметныя рысы нацыі: гэта чалавечая наша прырода, што дадае нашаму роду грацыі. Калі я апранаю сваю вышыванку, то адчуваю сябе Беларусам. Менавіта так, з вялікай літары. Адчуваецца нейкі гонар за прыналежнасць да нашай нацыі, ёсць таксама адчуванне ўзвышанасці, узнёсласці, нечага светлага, незвычайнага. Калі я ў добрым настроі і ў вышыванцы, хочацца прайсціся па шматлюднай вуліцы, каб лавіць на сабе зацікаўленыя позіркі. Вышываначка — для душы і сэрца наталяначка!»

**Паводле распаведу Уладзіміра Содаля і яго ўнука падрыхтавала Яна Трубач**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

Сяргей ЧЫГРЫН

**Штогод летам слонімцы ўшаноўваюць памяць аднаго з кіраўнікоў паўстання 1930–1831 гадоў супраць Расійскай імперыі Міхала Валовіча і яго паплечнікаў.**

Справа ў тым, што пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Беларусь была цалкам акупавана расійскімі войскамі. На працягу няпоўных ста гадоў беларусы тройчы ўздымалі меч барацьбы супраць нацыянальнага ворага — Масквы. Адным з самых магутных было паўстанне 1830–1831 гадоў. Чынным яго ўдзельнікам быў мой зямляк са Слонімшчыны Міхал Валовіч.

Ён нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 года ў маёнтку Парэчча Слонімскага павета. Лістападаўскае паўстанне 1830 года застала Міхала ў бацькоўскім доме. У той час, калі расійскія войскі былі выгнаны з Польшчы, выступленне паўстанцаў у Беларусі ўжо распачыналася. Тут існаваў Цэнтральны камітэт па кіраўніцтву паўстаннем на Беларусі ў тагачаснай сталіцы — Вільні. Камітэт меў сувязь з варшаўскімі паўстанцамі і з кожным паветам.

Паўстанцкі камітэт Слонімскага павета вылучыў сваім прадстаўніком Міхала Валовіча і накіраваў яго за дырэктывамі ў Вільню. У хуткім часе Валовіч удзельнічае ў Грахоўскай бітве, за што атрымлівае сваю першую вайсковую ўзнагароду. Новы Народны ўрад Польшчы вырашае дапамагчы паўстаўшай Беларусі. Валовіч і Пржцлаўскі павінны былі сустрэць груз са зброяй у Паланзе.

Пакуль яны дабраліся да Палангі, порт ужо быў захоплены рускімі. Палангу было вырашана ўзяць штурмам, сумесна з партызанскім атрадам Яцэвіча. Штурм пачаўся 13 мая 1831 года. Спачатку поспех быў на баку паўстанцаў, аднак да рускага гарнізону неўзабаве падаспела дапамога.

Потым быў штурм Вільні, аднак авалодаць горадам не ўдалося. Валовіч у гэты час прымаў удзел у баях пад Шаўлямі, Душвентамі, Повендэнямі і Новым Местам. За заслугі ў справе паўстання Валовіч і Пржцлаўскі былі ўзнагароджаны Цэнтральным урадам Польшчы залатымі кавалерскімі крыжамі. А на Бацькаўшчыне, у адпаведнасці з загадам расійскага цара, іх чакаў расстрэл.

Некаторы час Валовіч вымушаны быў знаходзіцца на чужыне. У Парыжы ён з паплечнікамі рыхтаваўся да новага паўстання. У пачатку сакавіка 1833 года група патрыётаў рушыла на Бацькаўшчыну. Дабраліся не ўсе. Але найбольш здатныя



Фота аўтара

перайшлі мяжу і прыступілі да падрыхтоўкі паўстання. Валовіч хутка сфармаваў партызанскі атрад. З мэтай здабыцця сродкаў на закупку зброі паўстанцы здзейснілі няўдалы напад на паштовую карэту з казёнными грашыма.

Тым часам у Валовіча з'явілася магчымасць павялічыць свой атрад, бо 10 мая ў лес уцяклі 28 палонных паўстанцаў, якія разбройлі свой канвой. Каб не дапусціць аб'яднання паўстанцаў, на іх пошукі было кінута звыш 10 тысяч салдат, паліцыянтаў і прыгонных сялян. Міхал Валовіч быў схоплены. На допытах трымаўся годна, праявіў выключную мужнасць, нічога не расказаў катам пра паўстанцкую арганізацыю.

21 ліпеня (2 жніўня па новаму стылю) Міхал Валовіч быў павешаны ў Гродне. Пазней яго маці выкупіла мёртвае цела сына і прывезла ў Парэчча. Міхала Валовіча пахавалі на мясцовых могілках каля ўніяцкай царквы. Яму паставілі помнік, які стаяў да таго часу, пакуль на Слонімшчыну не прыйшлі бальшавікі, якія ўсё знішчылі.

Вось і сёлета 1 ліпеня ў вёсцы Парэчча, дзе нарадзіўся Міхал Валовіч і дзе ўстаноўлены мемарыяльны знак паўстанцам, сабралася каля 50 чалавек са Слонімшчыны і Дзятлаўшчыны.

Мерапрыемства адкрыў кіраўнік слонімскай суполкі БХД Іван Бедка. Пасля выступалі іншыя сябры іншых палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў Іван Шэга, Барыс Кучынскі, Мікалай Ракевіч, Мікалай Барысік. У сваіх прамовах выступоўцы прыгадвалі паўстанцаў 1830–1831 гадоў, казалі пра сённяшнюю палітычную сітуацыю ў краіне, асабліва хвалявала выступоўцаў мэтанакіраванае знішчэнне беларускасці, роднай мовы, палітычныя арышты, а таксама слонімцы казалі і пра парламенцкія выбары, якія заклікалі ігнараваць і байкатаваць.

12 гадоў таму слонімскія грамадскія актывісты ўстанавілі на могілках у Парэччы мемарыяльны знак у гонар Міхала Валовіча і яго паплечнікаў, дзе штогод і адбываецца ўшанаванне герояў.

Пасля ўрачыстай часткі ўшанавання Міхала Валовіча і паўстанцаў 1830–1831 гадоў пачаўся шахматны турнір, які правёў майстар спорту па шахматах Уладзімір Ліцьвін. Дарэчы, усе ўдзельнікі турніру былі апранутыя ў майкі беларускага Радыё «Рацыя».

Увесь час за ўдзельнікамі мерапрыемства сачыў белы «жыгулёнак» з нумарамі 5536 ІА-4. З яго людзі ў штацкім здымалі на камеру ўсё мерапрыемства і яго ўдзельнікаў. Людзі не выходзілі з машыны, але адсочвалі ўсіх ад пачатку да канца. Тым не менш, мерапрыемства адбылося і ніхто не быў арыштаваны.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 641

Падпісана да друку 06.07.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.